
Спасаўскія запусты ➔3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Прыступа ➔8

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 35 (2991) Год LVIII | Беласток, 1 верасня 2013 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Багатая вясельная бяседа

**— Хаця мастацкі ўзровень прэзентаваных вясельных абрадаў вельмі высокі, а іх сцэнарыі, падрыхтаваныя на падставе аўтэнтычнай традыцыі цікавыя, мы ўжо думалі спыніць «Вясельную бяседу» ў нашым амфітэатры, бо ж абрады паўтараюцца. Аднак бачым, што мерапрыемства карыстаецца вялікім зацікаўленнем публікі і рашыліся яго працягваць. У будучым годзе будзем адзначаць 10-гадовы юбілей і таму неабходна падрыхтаваць асаблівую праграму. Можа пакажам таксама цыганскае або татарскае вяселле, — сказаў арганізатар мерапрыемства, дырэктар Гайнаўскага дома культуры Расціслаў Кунцэвіч.**


Ролю вяскоўцаў, прыбыўшых у дом маладой, удала выконвалі жанчыны і мужчыны з калектыву «Рэха пушчы» Гайнаўскага дома культуры


Жанчыны з калектыву «Пружаначка» ўпрыгожваюць каравай (злева вядучая мерапрыемства Яўгенія Васілюк з вёскі Аранчыцы)

Дагэтуль у час «Вясельнай бяседы» найчасцей паказваліся беларускія абрады, а толькі пры нагодзе прэзентаваліся вясельныя сцэнкі з іншых рэгіёнаў Польшчы. Так, як і ў мінулых гадах, галоўным сцэнарыстам і рэжысёрам IX Вясельнай бяседы, наладжанай 11 жніўня ў гайнаўскім амфітэатры, быў кіраўнік народнага тэатра танца «Ойра» з Пружан Васіль Пілюцік. На гэты раз калектывы з Пружанскага раёна, з дапамогай калектываў з Гайнаўкі, Гарадка і Крынак дэталёва падрыхтавалі вельмі багаты абрад «Каравай», які суправаджаўся шматлікімі спевамі, танцамі і гульнямі. Сцэнарый быў падрыхтаваны на падставе традыцыі выпечкі і прыбірання каравая ў вёсцы Аранчыцы Пружанскага раёна, адкуль прыехалі жанчыны з калектывам «Бабіна лета». У гэтым годзе цікава запрэзэнтаваўся калектыў «Пагодная восень» з Монек (7 жанчын і 5 мужчын), які паказаў польскія абрады «Сваты» і «Паненскі вечар».

У час выступлення перад публікай у амфітэатры бурмістр Гайнаўкі Ежы Сірак звярнуў увагу на падабенствы ў славянскіх абрадах і гасціннасць славян.

Першая «Вясельная бяседа» наладжана была ў 2005 годзе ў рамках польска-беларускага праекта пад патранатам Еўрарэгіёна «Белавежская пушча» і з выкарыстаннем еўрасаюзных сродкаў. Былі тады арганізаваны майстар-класы, у час якіх члены беларускіх калектываў з Беласточчыны і Беларусі вучыліся дэталям вясельных абрадаў і рыхтаваліся да выступаў на сцэне перад гайнаўскай публікай. У апошніх гадах такія вялікія майстар-класы ўжо не ладзяцца, але неабходныя супольныя рэпетыцыі спевакоў і танцораў з Падляшша і Пружанскага раёна. Сёлета, як і ў мінулым, вясельныя абрады паказваліся ў сцэнічным афармленні ў выглядзе вясковай хаты, з упрыгожанай ручніком іконай, макаткамі на галоўнай сцяне і фіранкамі на вокнах, выкананымі на даўні лад. Вясельны абрад «Каравай» для старэйшых асоб, якіх было найбольш сярод публікі, быў нагодай успомніць сваю маладосць.

— Што за вяселле было б без каравая, гэтага вясельнага печыва, якое сімвалізуе багацце і дабрабыт будучай сям’і, добрую долю і шчасце маладых. Аднак у народзе лічылі, што кожны чалавек можа мець каравай толькі адзін раз на вяселлі і таму, калі замуж выходзіла ўдава або жаніўся ўдавец, каравай не пяклі, — сказаў Васіль Пілюцік.

— Каравай пяклі спецыяльна запрошаныя бацькамі каравайніцы. Выбіраліся замужнія жанчыны, якія былі ў першым шлюбе, не былі бяздзетнымі і жылі ў сямейнай згодзе. Каравай у мінулым не быў такі высокі, як робяць цяпер, але ўсё, што рабілася ў час яго выпечкі і ўсе яго ўпрыгажэнні мелі сваё значэнне. Самае важнае, што на каравай быў зроблены знак крыжа, каб будучае сужонства жыло з Богам. Упрыгожваўся каравай галубочкамі, каб была вялікая любоў паміж мужам і жонкай, і вінаградам, каб салодкім было жыццё маладых. Каса на каравае была сімвалам развітання з дзявоцтвам, а пад каравай падсыпалі лён, каб маладыя былі працавітымі, — сказала адна з вядучых мерапрыемства Яўгенія Васілюк з Аранчыцкага дома фальклору (другой вядучай была Барбара Вашчэнка з Гайнаўкі).

У размову аб каравае ўключыліся таксама сцэнічныя бацькі маладой — Тацццяна Ярошка і Аляксандр Козей з Пружан.

— Выпечка каравая была вельмі важнай для будучай сям’і і ў мінулым у ёй прымала ўдзел вялікая радня і лепшыя знаёмыя з вёскі. Да выпечкі падбіраліся жанчыны, якіх лічылі самымі шчаслівымі ў вёсцы. Замясіўшы цеста, клалі яго на кажух, каб добра вырасла. Старэйшыя назіралі за працай каравайніц і правяралі, ці яны ўсё правільна робяць. Дзяўчаты-гусарніцы ўпрыгожвалі каравай гускамі, шышкамі ці бочачкамі з цеста, хлопцы за дзяўчатамі валачыліся, а дзеткі ў чаканні фіналу выпечкі круціліся пад нагамі, — заявіла Тацццяна Ярошка. — Каравай упрыгожваўся таксама натуральнымі раслінамі, якія мелі ўздзейнічаць на будучае жыццё маладых. Ружа абазначала шчасце, каласкі жыта — дастатак у сям’і, а хмель — моцнае каханне.

— Былі таксама каравайнікі, якія з бацькам маладой рыхтавалі дровы, печ, неабходныя прылады для выпечкі. Такой працай і я займаюся сёння на сцэне, — сказаў Аляксандр Козей.

Каравайнаму абраду ў Гайнаўцы спадарожнічалі песні і танцы. За доўгім сталом прыгожа спявалі жанчыны і мужчыны з беларускага калектыву «Рэха пушчы», які дзейнічае пры Гайнаўскім доме культуры. З народнымі беларускімі танцамі некалькі разоў выступілі гайнаўскія вучні з танцавальнага гурту «Перапёлка» (таксама з ГДК). Годна з народнымі песнямі запрэзентаваліся калектыў «Асенні ліст» з Гарадка, якому падыгрываў Генадзь Шэмет, і дуэт «Зараніца» з Крынак.

— Я першы раз на «Вясельнай бяседзе» і мне ўсё тут цікавае. Вельмі дэталёва паказваецца выпечка каравая калектывамі з Беларусі, — сказала Вольга Савіцкая з гарадоцкага калектыву.

Вакальны калектыў «Пружаначка» выступіў з апрацаванымі народнымі песнямі, а тэатр танца «Ойра» — з народнымі танцамі.

— Мы паказалі народныя беларускія танцы і дапамагалі рыхтаваць каравай да выпечкі. Частка нашых танцораў таксама спявае. Гайнаўская «Перапёлка» прэзентуе іншыя танцы, але некаторыя песні, якія спяваюць калектывы з Гайнаўшчыны і Пружаншчыны — падобныя, — заявілі Галя Велікаселец і Анастасія Серада з танцавальнага калектыву «Ойра». — Мы ўжо чацвёрты раз прэзентуем у Гайнаўцы вясельныя абрады і рады, што яны падабаюцца гайнаўскай публіцы, якая так шматлюдна збіраецца ў час бяседы. Гайнаўскія арганізатары мерапрыемства прымаюць нас тут вельмі цёпла і сардэчна.

З неапрацаванымі фальклорнымі песнямі з Пружаншчыны выступілі жанчыны з калектыву «Бабіна лета» з Аранчыц. Знатакі фальклору пахвалілі народных спявачак за ўмелую прэзентацыю аўтэнтычнай беларускай традыцыі.

— Будучы раней выкладчыкам у Каледжы мастацтваў у Гродне, я знаёміў сваіх студэнтаў з абрадамі і так склалася, што сёння выступіць мае былыя студэнты, што жывуць у Пружанах. Высока ацэньваю працу сцэнарыста і рэжысёра Васіля Пілюціка і падрыхтаваны ім абрад «Каравай», дзе аўтэнтычны абрад суправаджаецца аўтэнтычным фальклорам, народнымі спевамі і танцамі ў ягонай апрацоўцы. Было гэта і ў мінулым, бо ж агульнавядомыя песні ў кожнай вёсцы спяваліся з адметнасцю характэрнай для гэтага сяла, — заявіў акардэаніст калектыву «Рэха пушчы» Мікола Мяжэнны.

Пасля выпечкі і ўпрыгожвання каравай выкупіў бацька маладой Аляксандр Козей. Сабраныя працягвалі спяваць і танцаваць. Частка публікі не разыходзілася нават на змярканні.

— Атмасфера тут добрая, а вясельныя абрады, спевы і танцы — цікавыя, — заявіў перад самым адыходам Канстанцін Пшчола з Гайнаўкі, які часта наведвае беларускія мерапрыемствы.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**





# Закон пірамiды

Паведамленні пра апошнія падзеі ў Егіпце апошні тыдзень у эпіцэнтры сусветных навін. Ацэны і погляды на сітуацыю ў гэтай паўночнаафрыканскай краіне часцяком дыяметральныя, часам супярэчлівыя.

Але найбольш мяне ўражвае, хоць ужо і не здзіўляе, той факт, што каля тысячы турыстаў з Беларусі дагэтуль сядзяць у гарачай ва ўсіх сэнсах кропцы свету. Многія еўрапейскія краіны, прыкладам, Нямеччына, фактычна ўвялі забарону на турызм у ахоплены грамадзянскім супрацьстаяннем Егіпет. А турыстычныя фірмы нашай краіны па-ранейшаму не зніжаюць нават коштаў на турыстычныя пуцёўкі ў краіну старажытных пірамід. Мой сябра нават пажартаваў, што варта гэтыя цэны і павысіць. Дык няўжо сучасныя беларусы, якія маюць грошы на курортны адпачынак — такія экстрэмалы? Натуральна, што не. Беларускі народ XXI стагоддзя — пераважна баязлівы, абачлівы і сто разоў перастрахуецца перш чым прыняць нейкае рашэнне. Дык у чым жа тады справа? Адказ хіба просты — у Егіпет пруцца тыя, хто элементарна... не ведае пра тое, што там адбываецца. І ні то што не ведае, проста не хоча пра гэта ведаць. Як не хоча ведаць, што адбываецца ў бліжэйшых суседзяў праз мяжу, як не хоча ведаць пра тое, што адбываецца ў самой Беларусі. Пакуль абываценя не кране асабіста нейкая абуральная несправядлівасць ці няшчасце, ён не хоча думаць ні пра бяду іншых, ні пра праблемы ў краіне. Словам, як кажа прымаўка „не маё гарыць — не мне тушыць”. Гэтым і розніцца дэмакратычнае грамадства, дзе існуе грамадзянская супольнасць, ад краін з аўтарытарнымі і таталітарнымі рэжымамі. У апошніх чалавек бедны думае толькі пра тое, як выжыць і на чым ашчадзіць. А чалавек больш-менш заможны спадзяецца на тое, што каго-каго, а ўжо яго гэтая ўлада напэўна не зачэпіць, бо палітыкай ён не займаецца і лаяльнасць сваю заўсёды дэманструе.

І вабяць савецкага чалавека з Беларусі, Украіны, Малдовы ці Расеі ў Егіпет зусім не піраміды Гізы і старажытная гісторыя даўно заснуўшай цывілізацыі, едуць яны туды таму, што гэта модна, таму што там адпачываюць такія як яны.

Тое, што зараз робіцца ў Егіпце, яшчэ раз пацвярджае вядомую ісціну — калі ў дзяржаве доўгі перыяд няма змены ўлады, ствараецца міна запаволенага дзеяння, якая спрацоўвае пазней, калі абрынаецца стары „вечны” ўрад і пачынаецца трансфармацыя. Прыклады арабска-мусульманскіх дзяржаў — Ірака, Лібіі, цяпер вось Егіпта, а ў недалёкай перспектыве і Сірыі тут яскравыя. Маштабная, як ужо ў Сірыі, альбо лакальная, як пакуль у Егіпце, нянавісць амаль непазбежна прыводзіць да грамадзянскай вайны. Так што ў Егіпце, што б не казалі прыхільнікі нібыта стабільнасці і пастаянства ўлады, вінаваты ў тым што дзееца зараз найбольш якраз рэжым Мубарака, які нібыта даўно адхілены ад улады. Далёка не анёлы, як іх часам спрабуюць падаць, і так званыя браты-мусульмане на чале са зрынутым не так даўно абраным прэзідэнтам Мурсі. Радыкальны іслам нарабіў бяды ўжо ў шмат якіх краінах. Напэўна вінаватыя і ваенныя, якія зараз вельмі жорсткімі мерамі імкнуцца ўсталяваць хоць нейкі парадак у краіне, не дапусціць хаосу. Іх дзеянні нагадваюць мне сітуацыю ў Чылі ў 1973 годзе, калі крывавым шляхам усталявалася жорсткая дыктатура Аўгуста Пінахета, якая ўратавала паўднёваамерыканскую дзяржаву ад чырвонай чумы і куды большай катастрофы. У ацэнцы дзейнасці Пінахета чылійская нацыя дагэтуль падзелена, але факт застаецца фактам — краіна не спаўзла ў бандыцтва, як многія іншыя дзяржавы Паўднёвай Амерыкі.

Піраміда — адна з самых устойлівых фігур. Таму і прастаялі тысячагоддзі тыя ж славутыя егіпецкія піраміды. Але калі перавярнуць яе дагары, то яна непазбежна абрынецца. Прыблізна так і з дзяржавамі — калі ідзе паступовае эвалюцыйнае развіццё і адбываецца лагічная змена ўлады, тады няма і моцных сутрасенняў. Калі ж усталёўваецца дыктатура, праблемы толькі накопліваюцца, а посттаталітарная сітуацыя становіцца непрадказальнай.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# Буры і перуны

Апошнім часам Польшча ўчапілася Туска і ягонай расстроенай як спарахнелае фартэпіяна Грамадзянскай платформы. Валяць перунамі ў іх усе, хто можа, або яшчэ можа. Пачынаючы з мейнстрымных журналістаў і заканчваючы на бяздомных з-пад беластоцкага аўтавакзала. Усе, як згаварыўшыся, льюць сваю штодзённую жоўць а то на ўрад, а то на Сейм, а то на Туска, а то на ягоную партыю. Нават тых, хто больш не можа, электрызуе агульная аблава на сукенку пані Тускавай, цыгары яе мужа, на адчайную фінансавую шарпаніну Растоўскага, ляноту ўрада, ваяводскія і гмінныя гешэфты партыйных актывістаў ГП. У Беластоку магутныя грамы падаюць нават на пасаду прэзідэнта Трускаляскага, хоць беластачане шмат у чым абавязаны ягонаму эфектыўнаму кіраванню. І рыкашэтам, нават на ультраправага дэпутата Жалька ці стаяўшага на іншым баку ідэалагічных барыкад дэпутата Чыквіна. Варта ўзгадаць, аднак, што ў свой час падобна даставалася Качынскаму і яго субратам з Права і справядлівасці. Хто хацеў, выліваў на іх свае зяхаючыя маланкамі адстоіны: на старонках газет, у тэлевізары, у краме, дома або нават у грамадскім туалеце. Пра інтэрнэт ужо не кажучы, таму што ён гэта клаака дрэнных эмоцый — пра што ўсе ведаюць. Быў таксама час, калі палякі наляцелі былі на Рыдзыка і яго мутныя радыёмарыйныя мерапрыемствы, на маральна прасмярдзелы Каталіцкі касцёл і скажоных святароў. Польскі беспарадак, няякаснасць і абыякавасць. Бура польскай інтэнсіфікацыі на шчасце абмінула Праваслаўную царкву, беларусаў і іншых так званых меншасці. Пакуль абмінула, што не значыць, што не збіраюцца і над імі навальнічныя хмары.

Хто сее вецер, пажне буру, — сказана ў Біблії. Можна дашукваацца ў гэтых словах чалавечай веры ў гістарычную справядлівасць. Яна заснавана на лагічнай перадумове, згодна з якой прычына нараджае эфект. А вынік ухіляе прычыну. Але не будзем сябе маніць. У польскім і паўсюдным узбурэнні няма ніякай логікі. Вецер прычыны самасейны, а вынік буры непрадказальны. Перуны, калі ўжо ў каго б'юць, дык не ў тых, хто стаіць вышэй за іншых. Калі калісьці польскае ўзбурэнне з поўнай моцай сваёй энергіі электрычнага зараду сканцэнтравалася на Качынскім, перуны нацыянальнай экзальтацыі траплялі ў яго бліжэйшых паплечнікаў: Мацярэвіча і Гофмана. У Зёбру ўжо не, бо раней схаваўся пад громаадводам — па супадзенні — «Справядлівай Польшчы». Калі ў айца Рыдзыка — найбольш дасталася слухачам Радыё Марыя. Калі ў Каталіцкі касцёл — прыхаджанам і часта ў нічым невінаватым служкам Божым. Не інакш будзе і з Тускам. Над галовамі віцэпрэм'ера Растоўскага, міністры Мухі ці «гадзіннікавага» Новака ўжо небяспечна іскрыцца.

Маланка любіць мужчын. Нават тых у спадніцах. Па крайняй меры так кажуць амерыканскія навукоўцы. Па статыстыцы, тры чвэрці ахвяр перуноў складаюць мужчыны, у якіх арганізм здамінаваны тэстастэронам, асноўным мужчынскім гармонам, фарміруючым звычайныя мужчынскія рысы: рашучасць, смеласць, але і схільнасць да рызыкі, агрэсіі і жорсткасці. Хапае яго таксама ў арганізме жанчын, але ў меншых колькасцях. Хіба гэта таму жанчын абыходзіць маланка? Цікава, што ваюючыя за гендэрную роўнасць феміністкі набралі пры гэтым пытанні вады ў рот. Хто ведае, дарэчы, ці з ліку жанчын, ударных громам, гэта не яны складаюць асноўную частку ахвяр. Вада, як вядома, праводзіць электрычнасць. Але гэта між іншым.

Буры не абмінаюць Беларусі. Не дзіўна таму, што беларусы ўзбурваюцца. Калгасная эканоміка Лукашэнкі цалкам легла ў руінах. Хто пасеяў вецер, жне буру. Беларусы, адарваныя ад сваёй мовы як лісце ад дрэва, кідаюцца ў пошуках сваёй ідэнтычнасці. Або ўвасабляюцца ў мурашак на мяжы, якія цыркам займаюцца кантрабандай цыгарэт і бензіну і, верагодна, хутка за заслугі перад польскай эканомікай атрымаюць польскае грамадзянства. Або ўцякаюць у Расію, дзе прыбытковая праца, і падобная мова. У Беларусі засталіся спустошаныя мурашнікі, калгасы і аблагі. І Аляксандр Лукашэнка. А хай яго плясне маланка! Ды гэта далёка не так. Пан Туск, пан Качынскі і многія іншыя гэта доказ таго, што ў людзей, якія стаяць вышэй чым іншыя, перун так хутка не трэсне. Такім буры нястрашныя. Гэта жудасна.

**Міраслаў ГРЫКА**



**Вачыма еўрапейца**

# Інтэрфота

Набліжаецца адна з самых цікавых, на мой погляд, арт-падзей гэтага года — фестываль «Інтэрфота». Будзе гэта першая міждысцыплінарная і шматдзённая фатаграфічная імпрэза ва ўсходняй Польшчы. Мае праводзіцца кожныя два гады. Асноўнай часткай фестывалю з'яўляецца прадстаўленне работ айчынных і замежных фатографаў, у тым ліку з Беларусі, кранаючых важныя сацыяльныя пытанні і ідэнтычнасць. Апрача прэзентацыі здымкаў плануецца таксама шэраг суправаджальных мерапрыемстваў. Вядучай тэмай першага выпуску «Беласток-Інтэрфота» з'яўляецца ў шырокім сэнсе пагранічча. На прэс-канферэнцыі, папярэднічаючай падзеі, яе мастацкі кіраўнік Гжэгаж Ярмацэвіч сказаў:

— Памежжа гэта заадно геаграфічнае становішча ваяводства, як і горада, але памежжа гэта таксама вобраз мыслення, жыцця і адчування рэальнасці. Пагранічча з'яўляецца памежжам мастацтваў, і тэмамі, якія перасякаюць, парушаюць усе межы.

Сёлетні выпуск фестывалю будзе праходзіць з 2 да 29 верасня. Адбудзецца каля 50 розных фатаграфічных дзеянняў: 24 выставы аўтараў з Польшчы, Чэхіі, Літвы, Беларусі і Нямеччыны, 11 семінараў, накіраваных на дзяцей, моладзь і дарослых, 6 сустрэч, дыскусій і лекцый, 4 фатаграфічныя акцыі, два фільмы, і на канец фота-пікнік. Адрэкамендуюць сябе, сярод іншага, студэнты знакамітай школы фатаграфіі ў Гановеры, польскія студэнты знакавага Інстытута творчай фатаграфіі ў Апаве і Дзяржаўнай вышэйшай школы кіно, тэлебачання і тэатра ў Лодзі. Іншай цікавай падзеяй з'яўляецца выстава «Граніца» Групы 18х24. Мастакі маладога пакалення, якія, сягаючы па класічную тэхніку і шматфарматны фотаапарат, кіраваліся па слядах польскай мяжы да 1939 года і сфатаграфавалі людзей, якія жывуць там цяпер. Без сумневу, падзеяй стане выстава групы Sputnik Photos: «Stand By / За Беларусь». Сем фатографаў розных нацыянальнасцей адправіліся ў Беларусь, каб убачыць, што скрываецца пад тэрмінам «апошняя дыктатура ў Еўропе». Як піша Віктар Марціновіч у сваім эсэ ў кнізе, якая складаецца на праект «Stand By» ў Беларусі, «на кожным кроку сутыкаешся з прыкладамі двайной сістэмы, дзейнічаючы два творчыя саюзы пісьменнікаў, у гадах 1996-1999 гадамі былі нават два парламенты, жыццё цяжкае, але ў той час, калі прыязджаеш у Мінск, усё чыстае і акуратнае». Адкрыццё: 4 верасня ў 18:30 у Архібіскупскім архіве і музеі (вул. Варшаўская, 48). Пасля вернісажу сустрэча з творцамі.

У час фестывалю будзем мець магчымасць пабачыць таксама выставу народжанага ў Мінску ў 1962 годзе Ігара Саўчанкі «To Step over the Threshold» («Каб пераступіць парог»). Ён вывучаў кібернетыку і сістэмы аўтаматычнага кіравання ў Беларускім дзяржаўным універсітэце інфарматыкі і радыёэлектронікі. Гэта мультымедыйны мастак, пісьменнік і паэт. З фатаграфіяй працуе з 1989 года. Стварыў ён мультымедыйныя праекты, заснаваныя на тэкстах і новых распрацоўках кібернетычнага мастацтва. Важнымі элементамі спазнання свету, якія таксама ў некаторай ступені пераскладаюцца на мастацтва, з'яўляюцца вопыты, якія мастак атрымлівае ў час падводнага плавання ў глыбокай вадзе ў акваланту (спусціўся на глыбіню 192 м). У цяперашні час мастак прадстаўляецца ў прэстыжных галерэях Нью-Йорка, Берліна і Парыжа. У час фестывалю будуць паказаны яго апошнія мультымедыйныя работы. Адкрыццё: 6 верасня ў 17:00 у Беластоцкім лялечным тэатры.

Іншай цікавай падзеяй мае быць сустрэча вакол праекта «Albom.pl» або фатаграфічная прэзентацыя археалагічнай экспедыцыі на польска-беларускае памежжа. Праект рэалізавала Таварыства культурнай адукацыі «WIDOK» з Беластока. У экспедыцыі прынялі ўдзел шэсць энтузіястаў з Беларусі і Польшчы. Удзельнікі экспедыцыі на сваіх сайтах напісалі: «Не парываемся на поўны рэгістр. Мы выбралі для тэставання сем населеных пунктаў — два на польскім баку: Кляшчэлі і Гарадок, пяць з беларускага боку: Ваўкавыск, Сапоцкін, Лунна, Волпа і Камянец». Сустрэча з аўтарамі гэтага праекта — 12 верасня ў 17:30 у галерэі Слендзінскіх (вуліца Легіянова, 2).

«Беласток-Інтэрфота» арганізаваны Форумам фатаграфіі і мультымедый і Асацыяцыяй дзеля культуры і дыялогу 9/12. Варта прыняць удзел у гэтым фестывалі.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# XIX Спасаўскія запусты

Беларускае музычнае мерапрыемства «Спасаўскія запусты» пачалі ладзіць у Бельску-Падляшскім у палове дзевяностых гадоў мінулага стагоддзя актыўныя беларусы, згуртаваныя ў Бельскім аддзеле БГКТ. Вялікую работу па арганізацыі мерапрыемства ўзяў на сябе Бельскі дом культуры. У мінулым годзе было заснаванае аб'яднанне «Бельская кааліцыя» і яно таксама ўключылася ў арганізаванне запустаў, так як раней рабілі гэта члены выбарчага камітэта «Бельская кааліцыя». 11 ліпеня гэтага года вядомае і прэстыжнае беларускае мерапрыемства «Спасаўскія запусты» было арганізаванае супольнымі намаганнямі згаданых арганізацый і Бельскага дома культуры, а далучыўся да іх Музей малой айчыны ў Студзіводах. У прыгожы сонечны дзень у Парку каралевы Галены сабралася шматлікая публіка, каб паслухаць беларускія песні. Дзевятнаццаты раз перад Успенскім постам, які ў народзе называюць Спасаўкай (ад Спаса — Прабражэння Гасподняга), выступілі перадусім беларускія калектывы.

— Сама назва мерапрыемства «Спасаўскія запусты» была вельмі добрым выбарам і можна сказаць, што ў нейкі спосаб стала яна брэндам нашага горада. Нават у адным з агульнапольскіх турыстычных даведнікаў апынулася інфармацыя пра нашае мерапрыемства, якое вылучаецца сярод іншых шматлікіх цыклічных беларускіх фэстаў таямнічай назвай з рэлігійным зместам. Я нават заўважыў, што на Польшчу, а нават на свет прабіваюцца нашыя мерапрыемствы або ўстановы, якія ў нейкі спосаб спалучаны з нашай рэлігіяй, з праваслаўным веравызнаннем. Маю тут на ўвазе Міжнародны фестываль царкоўнай музыкі з Гайнаўкі ці Музей ікон у Супраслі. Самым адметным бельскім мерапрыемствам, а пры гэтым міжнароднага маштабу, з'яўляецца «Бардаўская восень» арганізаваная Звязам беларускай моладзі. Можна ў нас, у Бельску-Падляшскім, арганізаваць мерапрыемства з шырэйшай прапановай і «Спасаўскія запусты» можна было б пераўтварыць у такую ініцыятыву, калі б музычным выступленням спадарожнічалі дадатковыя мерапрыемствы. У рамках «Спасаўскіх запустаў» можна было б, напрыклад, ладзіць сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі, выстаўкі прац беларускіх мастакоў, а пры гэтым можна яшчэ арганізаваць канцэрт царкоўнай музыкі, свята беларускай паэзіі ці тэатральныя прэзентацыі. Такое вялікае мерапрыемства яшчэ больш станоўча ўспрымалася б публікай, — сказаў «Ніве» старшыня Паветовай управы БГКТ у Бельску-Падляшскім, былы дырэктар бельскай «тройкі» Васіль Ляшчынскі, які ад пачатку ўзначальвае арганізацыйны камітэт «Спасаўскіх запустаў».

Васіль Ляшчынскі пахваліў ініцыятыву Дарафея Фіёніка з Музея малой айчыны, які ў час запустаў правёў прэзентацыю альбома «Там по маёвуй росі. Песня, якая не сціхла» і запрэзентаваў фотавыстаўку, прымеркаваную да 10-годдзя фестывалю «Там по маёвуй росі» і 9-годдзя сустрэч «Олень по бору ходіт».

— Ініцыятыва Дарафея Фіёніка ідзе ў добрым напрамку, бо нам трэба арганізаваць мерапрыемствы суправаджаючыя «Спасаўскія запусты», калі хочам, каб яны разрасліся. Добрай нагодай для пашырэння формулы мерапрыемства будзе дваццаты выпуск «Спасаўскіх запустаў» у наступным годзе. Бюджэт сённяшняй імпрэзы сціплы, толькі 5 тысяч злотых. Нам трэба хадайнічаць перад Міністэрствам адміністрацыі і лічбавізацыі аб большыя сродкі на арганізацыю запустаў у пашыранай формуле, — гаварыў Васіль Ляшчынскі.



Жніўны абрад «Зажынкі» запрэзентавалі члены «Антракта» і ўдзельнікі майстар-класаў, а «Дажынкі» паказалі «Падляшанкі» з Гарадзіска (стаяць справа)



Фальклорная група «Балацяначка» з вёскі Балоты Кобрынскага раёна

У альбоме «Там по маёвуй росі. Песня, якая не сціхла» паказваюцца таксама здымкі з сустрэч «Олень по бору ходіт». Даецца ў ім апісанне дзейнасці Музея малой айчыны ў Студзіводах. Аўтары альбома асаблівую ўвагу адвялі падляшска-палескаму фестывалю традыцыйнай культуры «Там по маёвуй росі» і жніўным сустрэчам «Олень по бору ходіт», якія свае назвы займелі ад старадаўніх песень. Дзякуючы гэтым мерапрыемствам падляшскія песні «Там по маёвуй росі» і «Олень по бору ходіт» пайшлі ў свет і спяваюцца не толькі ў Польшчы, але і ў Беларусі, Літве і Латвіі.

— Мы пераносілі ў XXI стагоддзе нашую народную аўтэнтычную культуру і можна сказаць, што фестываль «Там по маёвуй росі» здзейсніўся і больш не павінен называцца фестывалем. Хопіць сустрэч на Юрыя, на Міколу, на Тройцу, спатканняў на зажынках, дажынках, на сяўбе і малацьбе, ці святкаванняў на Прачысту, Пакрову і на Вадохрышча. Дзеля гэтага фестываль непатрэбны, але дастаткова будзе адгукнуцца і зябрацца людзі дзеля працы на полі з абрадамі і святкавання, — неспадзявана для мяне, пастаяннага наведвальніка студзіводскіх мерапрыемстваў, сказаў дырэктар фестывалю «Там по маёвуй росі» Дарафей Фіёнік, які ў Парку каралевы Галены прэзентаваў фотавыстаўку і альбом (атрымалі яго ва ўзнагароду пераможцы конкурсу аб гісторыі «Спасаўскіх запустаў»).

Мерапрыемства распачалося паказам жніўных абрадаў. «Зажынкі» цікава запрэзентавалі на сцэне бельскага амфітэатра члены тэатральнага калектыву «Антракт» Бельскага дома культуры і вучні, якія ў час канікулаў удзельнічалі ў жніўных майстар-класах пад наглядам інструктаркі па тэатральнай дзейнасці Альжбеты Фіёнік.

— У час «Спасаўскіх запустаў» мы выступаем з рознымі абрадамі. Сёлета ў час майстар-класаў наладжаных у БДК вучыліся паказваць «Зажынкі», а дапамагалі нам у гэтым жанчыны з Гарадзіска, — сказалі Максім Фіёнік і Аляксандра Зінкевіч з бельскага «Антракта».

Вакальны калектыў «Падляшанкі» з Гарадзіска ўдала паказаў «Дажынкі» з абрадам «Перапяліца».

— У мінулым бывала, што запусты перад Спасаўкай супадалі з «Дажынкамі» на полі, дзе былі спевы і гульні, бо ў час Успенскага посту маладыя не выпівалі, не танцавалі і нават не спявалі. Добра, што маладыя з Бельска хочуць вучыцца ў нас і выступаць з абрадамі перад публікай, бо нават па нашых вёсках маладыя не ведаюць ужо даўніх абрадаў, — сказала Люба Масайла з калектыву «Падляшанкі», які вядомы перадусім тым, што падрабязна прэзентуе абрады і спявае фальклорныя песні, у тым ліку жніўныя.

— У час «Спасаўскіх запустаў» мы перад шырэйшай публікай паказваем жніўныя і іншыя абрады. Важна, што дзеткі вучацца абрадам таксама ад вясковых жанчын, носьбітаў абрадаў у нашых вёсках, — сказала Альжбета Фіёнік з БДК.

Песні запісаныя ад старэйшых вяскоўцаў запрэзентавалі калектыў «Жэмэрва» са Студзіводаў і дуэт «Зараніца» з Крынак.

— Мы найчасцей выступаем па вёсках перад невядомай нам публікай. Сёння сярод публікі ёсць нашыя бацькі, сямейнікі і знаёмыя і таму мы больш хвалюемся, — гаварылі Анна і Анэта з «Жэмэрвы».

З апрацаванымі народнымі беларускімі песнямі ўдала выступілі бельскія калектывы «Васілёчкі» і «Маланка», якія асабліва спадабаліся мясцовай публіцы.

— Сёння мы выступілі толькі з беларускімі песнямі, бо ж у нас беларускае свята і запрэзентавалі наш новы нумар «Хлеб ды соль», — сказала кіраўнік хору «Васілёчкі» Ніна Бялецкая.

— Мы сёння заспяваем нашыя энергічныя меладычныя песні, — заявіў музычны кіраўнік «Маланкі» Сяргей Лукашук.

З эстрадным рэпертуарам цікава запрэзентаваўся калектыў «Луна» з Парцава. Фальклорная група «Балацяначка» з вёскі Балоты Кобрынскага раёна запрэзентавалася ў Бельску з народным рэпертуарам. Валянціна Левая і Вольга Кондзер звярнулі ўвагу таксама на даўнія танцы ў рэпертуары гурту з Беларусі і пахвалілі Студзіводскі музей і бяльшчан за вялікую гасціннасць.

З апрацаванымі народнымі творамі і з эстрадным рэпертуарам выступілі «Цаглінкі» са Старога Ляўкова, а вакальна-інструментальны гурт «Dekada Band" з Беластока запрэзентаваў танцавальна-вясельны рэпертуар.


Запустам спадарожнічала фотавыстаўка, прымеркаваная да 10-годдзя фестывалю «Там по маёвуй росі» і 9-годдзя сустрэч «Олень по бору ходіт»

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

## Дрэнна, калі няма раскладаў

У Гайнаўцы гарадскія аўтобусы ездзяць на дзвюх лініях. Аўтобусы лініі № 2 ад панядзелка да пятніцы ездзяць за горад — у Дубіны. Адзін раз едуць а гадзіне 14.22, другі раз — а гадзіне 15.28 (гэта з прыпынку пры былым тартаку). Заедзеце ў Дубіны, а там ужо на прыпынках гарадскіх аўтобусаў ёсць дошчачкі, але на іх няма раскладаў. Я exaў 8 жніўня і таму ведаю, што апошні аўтобус прыязджае ў Дубіны а гадзіне 15.50 і вяртаецца ў Гаўнаўку ў 16 гадзін.

У суботу і ў нядзелю гарадскія аўтобусы ў Дубіны не ездзяць. Зараз пабудавалі веласіпедныя сцежкі, дык на ровары братва.

Дырэктар Прадпрыемства гарадской камунікацыі ў Гайнаўцы павінен як найхутчэй даць расклады язды ў Дубіны. Яны — неабходныя!

## Крытыка дапамагла

Пісаў я ў „Ніву“ пра найгоршы прыстрэшак на прыпынку гарадскіх аўтобусаў на лініі № 13 па вуліцы 27 Ліпеня (ад нядаўна яна ўжо вуліца 42 Пяхотнага палка) у Беластоку. Дадам, што горшага ва ўсім Падляшскім ваяводстве не знайшлося б.

І ў маі гэтага года дырэкцыя Беластоцкай гарадской камунікацыі паставіла на апошнім прыпынку па вуліцы 42 Пяхотнага палка (ён каля былой вялікай гарадской цяпліцы) новы прыгожы прыстрэшак-пачакальню. Павесілі расклад язды аўтобусаў і паставілі новы кошык на смецце. Цяпер тут усё ў належным парадку.

Ніўская крытыка дапамагла.

## Аўтарская сустрэча

У нядзелю, 1 верасня гэтага года, у Гмінным асяродку культуры ў Нараўцы (Гайнаўскі павет) адбудзецца сустрэча з Данутай Кучынскай, аўтаркай кніжкі пад загалоўкам „Лука над Нарвай. Памяць гэта бясцэнная рэч“. Да выдання далучылі кампакт-дыск з песнямі „Лука. Песні з глыбіні“ ў выкананні калектыву „Кумы і сванькі“ з Беластока.

Пачатак імпрэзы а гадзіне 17. Запрашаем.

**(яц)**



Наперадзе верасень — пачатак школьнага года. Якраз шмат адукацыйнай тэматыкі закранем у гэтым месяцы ў перадачах „Пад знакам Пагоні“ ў эфіры Польскага Радыё Беласток.

Апрача гэтага, як кожны месяц, будзем інфармаваць пра самыя важныя падзеі з жыцця беларускай меншасці ў Польшчы.

У сваю чаргу ў чацвяргі будзем працягваць нашыя візіты ў цікавых, можа часам прызабытых, падляшскіх мясцовасцях.

Пра ўсё гэта раскажам у перадачах „Пад знакам Пагоні“ на Польскім Радыё Беласток на хвалях 99,4 FM, 104,1 FM або 89,4 FM.

Панядзелак 18:45
Аўторак 18:45
Серада 18:45
Чацвер 18:45
Пятніца 18:30
Субота 18:30
Нядзеля 8:30

# Цыганскім возам па Падляшшы



Фота-калектыў Gęsia Skórka

У час саракадзённай вандроўкі хочуць даведацца чым жывуць жыхары падляшскіх вёсак. Размаўляюць, ладзяць мастацкія майстар-класы, дзеляцца добрай музыкай і фільмам. Як гаворацць, іх праект „Вандроўныя паданні“ накіраваны на адкрыццё і ўзбуджанне культурнай крэатыўнасці сярод вясковай супольнасці.

Былі ўжо ў сувальскіх вёсках Руткатартак ды Смольнікі, а цяпер падарожнічаюць цыганскім возам па Сакольшчыне. Група этнографаў, антрапалагаў, аніматараў культуры ў рамках праекта „Вандроўныя паданні“ наведвае вёскі, дзе ў музыцы, мясцовых легендах знаходзіць тое, што з'яўляецца аб'ектам іх зацікаўлення і даследаванняў: тэмы шматкультурнасці і лакальнай тоеснасці. У нядзелю завяршыліся тыднёвыя майстар-класы ў Ігрылах, скуль цыганскім возам аніматары пераехалі да апошняй мясцовасці — Старой Камёнкі, у якой завяршыцца праект „Вандроўныя паданні“.



Фота-калектыў Gęsia Skórka

— Галоўная мэта нашай працы — гісторыі, легенды, апавяданні, якія мы хочам пачуць ад сустрэтых людзей. Хочам таксама ім штосьці расказаць, паказваючы кіно, вартасныя фільмы, добрую музыку. Хочам завязаць дыялог пра турбуючыя пытанні аб адрозненнях і падабенствах, супольнасці ідэалаў і культуры.

Праект „Вандроўныя паданні“, арганізаваны Польскім інстытутам антрапалогіі, адбываецца ў чатырох мясцовасцях на Падляшшы. Сярод іх — дзве вёскі з Сувальшчыны і дзве з Сакольшчыны. Аўтаркі праекта, антраполаг Агата Гумель і аніматарка культуры Вераніка Брончак, адзначылі, што вёскі з-пад Саколкі выразна адрозніваюцца ад гэтых, якія пазналі на Сувальшчыне.

— Перадусім уразіў нас погляд жыхароў на Еўрапейскі Саюз. Людзі з сувальскіх вёсак лагодна перайшлі на „еўрапейскую“ мадэль кіравання сваімі фермамі, — сказала Агата Гумель. — Яны адмяжоўваюцца ад стэрэатыпу беднага падляшскага фермера. На Сакольшчыне гэта выглядае крыху інакш.

Ігрылы — вёска, якая ляжыць непадалёк Саколкі. Адрозніваецца яна ад іншых падсакольскіх мясцовасцей тым, што тут у XVII стагоддзі пасяліліся цыгане. Як падкрэслівае Войцех Янушкевіч, старшыня таварыства „Культурная спадчына Ігрылаў“, сёння нават 25 адсоткаў жыхароў вёскі мае цыганскія карані.

— Мая прабабуля яшчэ карысталася цыганскай мовай, якая, на жаль, не захавалася. Цяпер людзі карыстаюцца ўжо толькі польскай мовай або беларускай гаворкай.

На пытанне ці не хвалюецца тым, што неўзабаве беларуская гаворка таксама можа знікнуць, адказвае: „Не памрэ, таму што нават нашы дзеці ведаюць гэтую мову і карыстаюцца ёю“.

Паводле Войцеха Янушкевіча, у выглядзе жыхароў вёскі можна заўважыць цыганскія рысы: цёмныя валасы, смуглая скура. Апрача таго ігрылаўцы лічаць сябе вясёлымі людзьмі, асабліва ўражлівымі на спеў. Аб гэтым сведчыць факт, што ў вёсцы ўжо некалькі гадоў існуе гурт „Цыганскія сэрцы“. Якраз гэтая культурная адметнасць вёскі была галоўным повадам, для якога праект „Вандроўныя паданні“ не мог яе абмінуць.

— Наш праект мае цыганскі характар не таму, што хочам неяк даследаваць гэтую культуру, але таму, што хочам пазнаць Польшчу шляхам каравана, — сказала адна з арганізатараў, антраполаг Агата Гумель. — Таму прыязджаем у кожную вёску цыганскім возам, які цягне конь. Натуральна, не можам падарожнічаць па цэлым Падляшшы гэтым транспартным сродкам таму, што сёння няма ўжо такіх коней, якія б праехалі сто кіламетраў у адзін дзень. Ездзім па розных мясцовасцях не толькі пазнаваць, чэрпаць штосьці ад людзей, але таксама каб нечым падзяліцца з імі.

Як падкрэслівае другая з арганізатарак праекта, аніматарка культуры Вераніка Брончак, інспірацыю да свайго праекта чэрпаюць яны з цыганскай культуры:

— У цыганскай культуры мы бачым ужо знікаючы лад жыцця, свабоду перамяшчэння, незалежнасць. Мы — так як цыгане — нядоўга застаемся ў адной мясцовасці. Праект працягваецца 40 дзён, у час якіх мы наведаем чатыры падляшскія вёскі.

У час побыту аніматараў у Ігрылах цэнтрам падзей стала дзіцячая пляцоўка на загуменні вёскі. На майстар-класы дзеці прыязджалі сюды на роварах, старэйшыя — на матацыклах або прыходзілі „наўпрашкі“ праз агароды. Тут стаіць невялікая драўляная сцэна, дзе цягам дзесяці дзён у рамках праекта праходзілі розныя мастацкія мерапрыемствы, дэманстраваліся фільмы, якія, як падкрэсліваюць арганізаткі, прыцягнулі вялікую колькасць гледачоў.

Цікавінкай была сустрэча з таварыствам „Група студня О“ якая прафесійна займаецца расказваннем казак, легенд, міфаў, эпасаў з розных культур. У ролі расказчыкаў праверылі сябе таксама дзеці, якім трэба было прыдумаць легенду аб заснаванні Ігрылаў.

— Першапачаткова трэба было дзецям напісаць сваю ўласную гісторыю вёскі, бо не ўсе ведалі гэтую сапраўдную, — адзначыла аніматарка культуры Вераніка Брончак. — Было пры гэтым многа смеху, а мы, дзякуючы іхнім варыянтам, маглі зразумець, што для іх важнае. Мы самі пазналі легенду ад старэйшай жыхаркі вёскі.

Паводле мясцовых паданняў, вёску заснавалі цыганы:

— Аднойчы сюды прыехалі цыганы, якія вельмі прыгожа ігралі, — пачала расказваць Ева Якубовіч з Ігрылаў. — Тутэйшым настолькі спадабалася іхняя музыка, што не дазвалялі цыганам не перарваць. Ігралі днямі і начамі, а людзі ўвесь час крычалі: „Іграйце, іграйце...“ і адтуль Ігрылы!

Дзеці Евы Якубовіч таксама прымалі ўдзел у майстар-класах. Паводле яе, візіт аніматараў у вёсцы для некаторых дзяцей быў адной з цікавейшых падзей у час канікулаў.

— Вядома, дзеці на вёсцы не маюць куды паехаць. Гэтыя, якія маюць заможных бацькоў, выязджаюць на адпачынак, а тым, якія застаюцца ў хаце, што рабіць? То хаця цяпер маюць нейкую „разрыўку“.

Выступ вандроўнага лялечнага тэатра „Малое Мі“ ў Старой Камёнцы завяршыць саракадзённую вандроўку групы аніматараў па Падляшшы. Агата Гумель і Вераніка Брончак ужо абвясцілі, што гэта не будзе іх апошні візіт у новапазнаных вёсках.

**Уля ШУБЗДА**

# Народны фэст у Семяноўцы



Стараяўкоўскія „Цаглінкі” заваявалі сэрцы публікі

Ужо традыцыйна 9 жніўня (на прыхадскога св. Панцеляймона) пасля поўдня ладзяць беларускі народны фэст у Семяноўцы (Гайнаўскі павет). Сёлета ў гэты дзень стаяла гарачае, спякотнае надвор'е. Сцэну пабудавалі побач Асяродка экалагічнай адукацыі, прывезлі лавы для гледачоў. Усё як і ў мінулыя гады (хаця, напрыклад, у 2006 годзе і раней мерапрыемства арганізавалі ля святліцы). Трэба сказаць, што ў Семяноўцы ды тутэйшай акрузе людзі любяць беларускія, рускія, польскія і ўкраінскія песні.

Фэст адкрыў і жыхароў Семяноўкі, гасцей ды ўсе вакальна-музычныя калектывы прывітаў войт Нараўчанскай гміны Мікалай Павільч. Сардэчна зычыў усім сабраным (у тым ліку жыхарам суседніх вёсак і прыезджым з Гайнаўкі, Бельска-Падляшскага, Міхалова і Беластока) прыемнага настрою і адпачынку.

Канцэрт вяла Анна Стульгіс з Нараўкі. Найперш на сцэну выйшаў гурт „Гай” з Беластока. Гэты вакальна-інструментальны калектыў спяваў пра камара, які з мухай ажаніўся, песні „Вяне рута”, „Вы шуміце, шуміце ля дарогі бярозы”, „Ой бяда, бяда”, „Цячэ вада ў ярок”, „Матулін голас”, „Колькі ў небе зор” ды рускую песню „Пад акном чаромуха калышацца” і ўкраінскую „Распрагайце хлопцы коней”. Песні рытмічныя і меладычныя. Саліст гурту запрашаў слухаць песень у іх выкананні : „вельмі, очень, bardzo”.

Зараз потым выступілі стараяўкоўскія „Цаглінкі” пад музычным кіраўніцтвам Мікалая Мяжэннага з Гродна. Ансамбль праспяваў дзевяць песень, у тым ліку пра казакоў, „Выйдзі мілая дзяўчына”, „Туман ярам”, „Каваль”, „У зялёную дуброву пайду вечарам к мілому” ды па польску „**Żurawie**”. Заваявалі яны сэрцы гледачоў.

Затым публіка пачула мілагучныя беларускія і рускія песні ў выкананні жаночай вакальнай групы „Мілавіца” са Свіслачы. Спявалі стройныя жанчыны песню пра тое, як дзяўчына хлопца маладога заманіла ды як маці навучала, каб „я не стала з маладым рэкрутам” і іншыя пра каханне. Прагучэла ў іх задушэўным выкананні руская песня „Виновата ли я”. Іх песні ўспрымаліся з трапяткой душою.

На трэцяй гадзіне канцэрта прысутных парадаваў маладзёжны эстрадны гурт „Сакрэт” з Міхалова. У прасторы над Семяноўскім возерам луналі песні „Ты ж мяне падманула”, пра цыгана Яна ды рускія „Листья жёлтые”, „Черёмуха” і іншыя. Яны ў змозе прыспешыць біццё сэрца. Саліст і салістка заклікалі танчыць пад гукі меладычных песень.

Канцэрт закончыўся выступам вядомай „Маланкі”. Усе былі пад уражаннем звонкіх і зладжаных галасоў бельскага гурту. Сваім музычным майстэрствам яна заваражыла слухачоў. Тады ўжо былі прыцемкі і возера дыхнула вільготным халадком.

Трэба адзначыць, што калектывы выступілі паспяхова, да таго ўсе ў прыгожых народных касцюмах, і атрымалі заслужаныя апладысменты.

Святкаванне закончыў танцавальны вечар пад музыку калектыву „Санэль” з Беластока.

Сёлета фэст быў мнагалюдны. На вуліцы стаялі самаходы і самаходы. Збоку пляцоўкі — ларкі, у якіх прадавалі марожанае, ахаладжальныя напіткі, мячыкі, паветраныя шарыкі ў выглядзе бягучых коней, лятучых рыб і зайчыкаў. Было прыемна і весела пасядзець і асаладзіць сабе вольны час прыгожымі песнямі. Шкада, што не завіталі сюды паслы Беластоцкай зямлі. Забываюць пра сваіх выбаршчыкаў?

Мерапрыемства ладзілі нараўчанскія гмінныя ўлады, Гмінны асяродак культуры і Рада салэцтва Семяноўка.

**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

# Беларускі фэст у Чаромсе

Унядзелю, 4 жніўня, стаяла цудоўнае надвор'е. Апоўдні тэмпература ў цяньку сягала 30 градусаў, на сонцы — на дзесяць градусаў больш. У Чаромсе свята — Беларускае грамадска-культурнае таварыства арганізавала народны фэст. Суарганізатарам выступіў Гмінны асяродак культуры. На пляцоўцы побач ГАК латочнікі зранку расставілі laткі з цацкамі і ласункамі. Побач чакала „вясёлае мястэчка”, за ім сцэна і сядзенні для публікі. Засталося чакаць гледачоў...

Канцэрт быў назначаны на 14 гадзін, але „пакаўзнуўся” на пятнаццаць хвілін, бо публікі было няшмат. Частка людзей стаяла за агароджай на тратуары, скрываючыся ад сонца ў цяні раскідзістых дрэў, іншыя перанеслі лаўкі пад паветкі на пляцоўцы. Сонечнай спёкі нельга было вытрымаць. Нягледзячы на малалікую публіку, на сцэну выйшлі войт Юры Шыкула і старшыня ГП БГКТ Ян Сычэўскі адкрыць беларускі народны фэст. Пасля палачку вядучага пераняла Мар'ёля Герман. Першым на сцэну выклікала „Рассяваны Гарадок” (кіраўнік Віктар Маланчык). Народныя ўборы, звонкія галасы гарадоцкіх пявунь ды бадзёрая музыка гармоніка заваражылі публіку. Канцэрт пачаўся песняй „Зязюля”, а закончыўся — „Беларусачкай”. Былі яшчэ „Ясна ночанька”, „Бочачка” ды іншыя. Пасля кожнага нумару раздаваліся бурныя апладысменты. Так было пры выступах чарговых калектываў, а выступілі „Сказка” (мастацкі кіраўнік Пауліна Козел), „Крыніца” (Віктар Маланчык) і калектыў настаўніц „Світанак” з Самаўрадавага прадшколля № 14 (Галена Кудраўцава) з Беластока, „Арт-Пронар” (Янка Снарскі) з Нарвы, „Неруш” (Валянціна Гладкая) з Мінска ды „Ручаёк” (Марк Зубрыцкі) з Белавежы. Несліся песні над Чаромхай — тутэйшыя, своеасаблівыя, з народнай скарбніцы. А публікі прыбывала. Змяняліся песні быццам кадры шматсерыйнага фільма: „Твая гітара”, „Купальскі вяночак”, „Вася-Васілёк”, „Залатая хуста” ў выкананні „Сказкі”; „Родная старонка”, „Тонкая сасонка” — у выкананні „Крыніцы”; „Гуляю я” і „Чарка на пасашок” — у выкананні „Світанка”. Нельга пералічыць усіх песень, якія чаромхаўскай публіцы запрэзентавалі калектывы. Шмат эмоцыі прынёс гурт „Неруш” з Мінска. „Цячэ вада ў ярок”, „Піва”, „Ты казала” ці полька „Янка” былі ўспрыняты публікай з авацыямі. Сапраўдным гітом аказаўся выступ гурту „Арт-Пронар” з Нарвы. Калектыў у складзе Мар'ёля Герман, Юстына Яцко і Мацей Сніткоўскі пад мастацкім кіраўніцтвам Янкі Снарскага проста заваражыў публіку. „Маміна сарочка”, „Плачучая гітара”, „Адзін раз у год”, „Букет белых роз” — гэтыя песні не толькі кранулі сэрцы гледачоў, але захапілі да танцаў гарадоцкіх прыгажунь і шматлікіх танцораў з ліку публікі. Нават войт Юры Шыкула і старшыня Ян Сычэўскі пайшлі ў скокі. А калі абвясцілі канец выступу песняй „Шарманка”, якую калектыў прысвяціў публіцы, дык над пляцоўкай панёсся гучны вокліч „біс” і доўга-доўга не сціхаў. Кіраўнік гурту Янка Снарскі запытаў сакратар ГП БГКТ Валянціну Ласкевіч: „Можам выканаць яшчэ адну песню?”. А калі не атрымаў дазволу, публіка выявіла сваё незадавальненне. У тым месцы варта адзначыць, што набліжалася гадзіна 16:40, а ў 17 гадзін арганізатараў чакаў чарговы фэст у Дубічах-Царкоўных. Яны проста спазняліся. Арганізатары падаліся кожны ў свой бок, пакідаючы публіку самой сабе, без развітання, не сказаўшы ні слова. На пацеху застаўся белавежскі „Ручаёк”, які БГКТ запрасіла ў Чаромху па-за праграмай. Таму фэст у Чаромсе завяршыўся іхнім выступам. Белавежскія госці запрэзентавалі чатыры песні: „Ой у полі пры даліне”, „Вішнёвы сад”, „Вестачка мая” і „Горила сосна”. Публіка ўзнагародзіла белавежскіх самадзейнікаў бурнымі апладысментамі.

Пакідаў я пляцоўку з сумам і расчараваннем, так сама як і апошнія мае кампаньёны па фэсце. Не стану шукаць віноўнікаў закалоту сярод арганізатараў. Як канстатаваў войт Юры Шыкула, арганізаванне беларускіх фэстаў у Чаромсе патрэбнае, проста неабходнае. Дапамінаецца іх лакальная грамадскасць. Сведчыць аб гэтым прысутнасць публікі на такога роду мерапрыемствах. Таму мой заклік у адрас арганізатараў: арганізуйце, дарожэнькія, імпрэзы ў апошнія дні тыдня на адвячорку — пятніца або субота, а пятай-шостай пасля абеду, затым імпрэзу абмяжуйце да адной мясцовасці. Не пакідайце публіку, спяшаючыся ў іншае сяло. Людзі патрабуюць культурных імпрэз, захапляюцца сваімі песнямі, падтрымліваюць нацыянальную культуру. І ў гэтым ім трэба дапамагчы.

**Уладзімір СІДАРУК**

Нараўчанская гміна

# Адзіноцтву — не!

У Нараўчанскай гміне (Гайнаўскі павет) пражывае многа пенсіянераў. Раённы аддзел Польскага саюза пенсіянераў (ПСП) у Нараўцы, якому старшынюе Ядвіга Карпюк, адзін з актыўнейшых і большых у Падляшскім ваяводстве. Старшыні многа дапамагаюць перш-наперш Аляксандра і Антон Конкелі, Люцына і Аляксандр Здаnoўскія, Галіна і Сяргей Бандарукі, Яўген Смольскі, Мікалай Варанецкі, Павел Леўша і Юрка Кісялеўскі.

Даволі часта ладзяць яны ўдалыя сяброўскія сустрэчы, пікнікі, цікавыя краязнаўчыя экскурсіі, сустраканне вясны, традыцыйнае святкаванне Дня інваліда і Дня сеніёра, навагоднія балі і іншыя культурна-забаўляльныя мерапрыемствы.

У суботу, 10 жніўня гэтага года, арганізавалі пікнік у Нараўцы на прыгожым беразе ракі Нараўкі ў тым месцы, дзе ў агародчыку стаяць парасоны і пад імі столікі ды лавы. Войт Нараўчанскай гміны Мікалай Павільч даў мікрааўтобус, каб прывезці пажылых людзей на сустрэчу. Найбольш іх прыехала з Альхоўкі, Плянты, Ахрымоў, Старога Ляўкова, Новага Ляўкова, Міклашэва і Нараўкі.

Прыемна было сабрацца гуртам у цёплы летні дзень пасля поўдня ў засені набярэжных дрэў. Тут і пляж. Увесь час іграла музыка. Усе былі па-святочнаму апрануты. Зрабілі сабе на памятку „сямейны” здымак.

Затым былі аб'яўлены конкурсы. Мужчыны з вудамі пайшлі лавіць рыбу. Усе іншыя ахвотныя спаборнічалі ў кіданні не ўпару апаўшымі яблыкамі: хто далей. Пераможцамі па рыбалоўлі сталі Павел Леўша і Андрэй Сухадола. Сярод жанчын найдалей кідалі Галіна Бандарук (першае месца) і Люцына Здаnoўская (другое месца) ды сярод мужчын — Юры Тамберг і Сяргей Бандарук (занялі яны раўнапраўнае першае месца). Найлепшыя атрымалі ўзнагароды.

Арганізатары падавалі бігас, хлеб і хлебны літоўскі квас. Хто толькі хацеў, падаграваў сабе кілбаску на вогнішчы. Да таго яшчэ жанчыны ўзялі з сабой г.зв. „уласны кошычак” (вяндліна, маласольныя агуркі, памідоры і талерачкі з вінегрэтам) ды па бутэльцы „духа пушчы” (так у нас называюць самагонку). Было чым падсілкавацца. Была кава і гарбата.

Можна было даволі патанцаваць пад музыку: выдатна ігралі і спявалі Пётр Скепка і Анна Карэтка з Гайнаўкі. Маюць яны цудоўную падборку папулярных песень на вядомых нам чатырох мовах. У тым выпадку іх рытмы былі дапасаваны да пенсійнага ўзросту прысутных . Пры іх музыцы так і хочацца танчыць ды падпяваць. Танцы працягнуліся ад гадзіны 17 да 21.30. Атмасфера была сардэчная, цёплая. Вечарам між танцамі аб'явілі яшчэ адзін конкурс — песенны — „Мікрафон для ўсіх”. Спявалі прыгожа і з вялікім пачуццём Мікалай Варанецкі, Вольга Сачко і іншыя. Сярод пенсіянераў ёсць людзі з музычным талентам і ўсе яны прыгожа выконвалі свае любімыя песні.

Мігам праляцелі супольна праведзеныя ў грамадзе гадзіны. Вось так пенсіянеры дораць сабе радасць! Даволі іх шмат удоваў і ўдаўцоў. Ёсць асобы разведзеныя і старыя кавалеры. Сяброўскія сустрэчы — гэта добрая нагода для таго, каб знайсці сабе „палавінку” на рэшту жыцця. Якое ж яно горкае ў сумным адзіноцтве. Таму такія інтэграцыйныя вечарыны патрэбныя. Раённы аддзел ПСП пра гэта клапоціцца.

Варта дадаць, што неўзабаве — бо напрыканцы жніўня — нараўчанскія пенсіянеры паедуць на „сваё” Семяноўскае возера, каб пакатацца на судне. У гэты раз не захацелі яны далекавата ехаць да Аўгустова. На Мазурскім пазер'і шматлікія з іх ужо не адзін раз былі і плылі па найвялікшым польскім возеры Снярдвы.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# „У памяць” — сустрэча ў Новінах



Фота Ганны КАНДРАЦЮК

**Тамара Саланевіч** зняла дакумент пра праваслаўных людзей з Нараўчанскай гміны, якіх савецкія ўлады вывезлі ў Казахстан.

Цёплым адвячоркам рэдакцыя газеткі „Людзі Тамары Саланевіч” наведала Бажэну і Мікалая Казлоўскіх, жыхароў лясной вёсачкі Новіны.

Вёска напамінае лясны хутар, там пяць дамоў.

Героямі фільма „У памяць” Тамары Саланевіч сталі бацькі спадара Мікалая — Вольга і Сяргей. Пра ссылку ўспамінала Вольга. Яе мужа не было ўжо ў жывых. Яна расказала як іх забралі і як яны ехалі чыгункай. Дарога была вельмі цяжкай і небяспечнай. У дарозе памерлі іх дзеці, якіх пахавалі чужыя людзі дзесьці пры дарозе. Калі яны даехалі ў Казахстан, там сустрэла іх новая бяда. Сужонства раздзялілі. Першай на бацькаўшчыну вярнулася спадарыня Вольга. Пад канец вайны з фронту вярнуўся спадар Сяргей. Мікалай быў іх апошнім дзіцяткам. Ён нарадзіўся ў 1948 годзе.

Тамара Саланевіч пацікавілася лёсам іх сям'і, каб паказаць пакуты людзей, якія цярпелі з-за палітыкі. Адзінай праўдай для яе герояў было тое, што ў іх было многа зямлі.

Спадарыня Вольга дала згоду выступіць у фільме. Яна хацела перадаць памяць пра мужа найбліжэйшай сям'і. Праца ў фільме спачатку падабалася бабулі. Аднак пасля нейкага часу стаміла. Рэжысёрка вельмі дбала пра дэталі. Яна здымала гэты фільм больш за месяц часу, вельмі многа размаўляла з гераіняй і з яе сям'ёй.

Бажэна Казлоўская, нявестка гераіні, рыхтавала для фільмавай брыгады абеды. У яе памяці астаўся вельмі цёплы і прыгожы вобраз Тамары Саланевіч.

Ці адчувалі гонар, што гэта іх выбрала Тамара Саланевіч?

— Для нас гэта вельмі важны фільм, — кажа гаспадыня. — Дзякуючы яму пакуты нашых бацькоў не забытыя.

*Паўліна Вайранюк — „Людзі Тамары Саланевіч”, Гімназія ў Нарве*





## Вераснёвы ранак

*Ранкам вераснёвым*
*астры ў росах усталі.*
*Верасы на ўзлеску*
*сонца прывіталі.*

*Наш аўтобус мчыцца,*
*махаюць матулі.*
*Неўзабаве школа*
*загудзе як вулей.*

*Колькі будзе смеху,*
*раказаў пра лета!*
*Колькі перад намі*
*песенек няспетых!*

*Новых тэм і ведаў,*
*і сяброўстваў новых!*
*А радасць запішам*
*на лістку кляновым.*

**Міра ЛУКША**

## Вершы Віктара Шведа

### У рэстаране

Пры абедзе ў рэстаране
Размаўляюць гараджане.
Звонку ў шыбы ў бубен быццам
Звоняць кроплі навальніцы.

Адзін кажа: — Дождж вялікі —
Дык займаюся разлікам.
— А што робіць друг ягоны?
— Прадаю я парасоны.

### Збыліся праклёны

Гарэзнага Колю
Вёска не любіла:
— Каб цябе ніколі
Зямля не насіла!

Гарэзлівы Коля
Шмат вучыўся ў школе.
Лётае з ахвотай
Ён на самалётах.

# Тры бярозы

Фото Ганны КАНДРАЦЮК

*(пачатак у № 34)*

Пасля некалькіх хвілін бярозак паклалі на воз і павезлі ў памяшканне, туды, дзе раней забралі дубочкаў. Яны нічога не адчувалі, бо самлелі ад страху. А калі прачнуліся, убачылі побач сябе многа людзей. Купалінка пaглядзела на Ночку і здзівілася. Яе сястра была яшчэ прыгажэйшай. Усе тры бярозкі сталі лялькамі. Іх апранулі ў вышываныя сукні і фартушкі. Галоўкі аздаблялі вянкі. Да іх наблізіліся дзеці: дзяўчынка і хлопчык. Хлопчык кіўнуў галавой і сказаў:

— Паглядзі, сястрычка! Якія цудоўныя лялькі. Ці ты не хочаш іх купіць?

— Праўда, яны такія прыгожыя.

Яна дастала з кашалька заашчаджаныя грошы і купіла тры лялькі.

У хаце пачала імі забаўляцца. Дзяўчынка пасадзіла Ночку ў каляску і стала яе вазіць па хаце. На гэта ўсё спазіралі Купалінка і Беларусачка, якіх малая пасяліла ў прыгожую драўляную хатку. Лялькі пілі гарбатку і елі шакалад. Вечарам, калі дзяўчынка заснула, сёстры сабраліся кампаніяй і пачалі танцаваць. Да іх падышлі пяць драўляных мядзведзікаў. Гэта былі браты дубы. Адзін з іх спытаў:

— Гэта вы, мілыя бярозкі?

— Так, гэта мы, — адказалі хорам сёстры.

— Заўтра будзе ў нас вялікае свята, — сказаў мядзведзік. — Мы падрыхтавалі сюрпрыз для дзяцей. А вы хоць ведаеце, як іх завуць?

— Не, не ведаем! Скажыце нам, калі ласка, — папрасіла Ночка.

— Дзяўчынку завуць Алеся, а хлопчыка — Кандрат. Яны блізняты. Яны добрыя для нас...

*(працяг будзе)*

*Вераніка Кардзюкевіч і Габрыеля Торка — вучаніцы Непублічнай школы свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку.*

# Нараўчанскія справы — сустрэча з войтам

Фото Ганны КАНДРАЦЮК

„Тамара Саланевіч была цвёрдай жанчынай і заўсёды выказвала сваю пазіцыю”, — кажа Мікалай Павільч, войт Нараўчанскай гміны.

Разам з нашымі апякункамі Ганнай Кандрацюк і Іааннай Марко ўзяць інтэрв’ю ў войта ва ўправу гміны паехалі гімназісткі Наталля Васько і Эва Аврчук. Размову праводзіла спадарыня Ганна Кандрацюк, а мы ўважліва прыслухоўваліся пытанням і адказам. Войт расказаў пра агратурызм. На сённяшні дзень у Нараўчанскай гміне каля 50 агракватэр. Прадбачваецца таксама мадэрнізацыя інфраструктуры. Другая частка размовы была прысвечана асобе Тамары Саланевіч. Калі пайшло пытанне пра заняпад дома і панадворка рэжысёркі, войт сказаў, што яго марай з’яўляецца адбудова месца. На жаль, на сённяшні дзень цяжка нешта зрабіць. Уся маёмасць належыць прыватнаму чалавеку, які хоча прадаць дом. Сама гміна не мае сродкаў на куплю і рамонт будынкаў.

Войт сказаў, што хоча, каб у роднай хаце Тамары Саланевіч паўстаў музей, прысвечаны яе асобе. Уся размова адбылася па-беларуску. У гміне прыняты закон, у адпаведнасці з якім мясцовая адміністрацыя можна карыстацца беларускай моваі, на якой можна пісаць прашэнні і афармляць справы.

**„Галерэя Тамары”**

# Наймалодшая вёска Беласточчыны

Пасля высялення ў 1986 годзе „старой” Лукі, некалькі кіламетраў далей паўстала Новая Лука. Гэта наймалодшая вёска на Беласточчыне. Цікавы тут падзел жыхароў: па адным баку вуліцы жывуць мясцовыя земляробы са старой вёскі. Па другім убачым багатыя дачы, куды ў вольны час прыязджаюць жыхары гарадоў. Уся вёска напамінае прадмесце нейкага горада.

**„Галерэя Тамары”**

# Фарсістая жабка

Жабка сохла без шапкі
на сонцы ў жары-спякоце.
А дождж пайшоў і ў жабкі
змоклі лапкі, спіна і жывоцік.

Парасон, можа, жабцы купім,
каб сонца не пражыла жабку
або дождж не сек жабкі на купе,
калі возьме парасон яна ў лапку?

Міне восень, засне жабка ў муле,
парасон пачакае жабкі.
Ёй не трэба швэдра, кашулі,
ні шкарпэтак на ўсе яе лапкі.

Як фарсіць будзе ўвесну жабка:
вось у нікога няма парасона!
Перад жабкай усе здымуць шапкі,
нават бусел у чырвоных кальсонах!

Міра ЛУКША

# Польска-беларуская крыжаванка № 35

**Запоўніце клеткі беларускімі словамі паводле значэнняў. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

**Адказ на крыжаванку № 31:** Мотар, ліпа, кмен, зрок, барабан, званар, на, спадар. Маладзік, збан, кран, мора, лекар, фін, на, каляндар.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Zamek | | Bierz! | | | Ar / Twaróg | | Przyrząd |
| Mig / Punkt | | Furtka / Cytryna | | | | | | |
| | | | Przebój | | Dama | | Jak | |
| Komi-niarz | | | | Nos | | | | |
| | | | | | | | Data / Do | |
| Kot | | | | Moda | | | | |
| | | | | Agat | | | | |

*Віктар ШВЕД*

## Уладзіміру Казберуку

*У Дзевяностую гадавіну*
*з дня нараджэння*

Ты, Дружа, так як я, з Падляшша,
З нашай маленькае Айчыны.
Супольныя карані нашы
І нашы юныя ўспаміны.
Сочыш Ты за мастацкім словам
Літаратурнай „Белавежы”,
І заўсягды Ты быў гатовы
Да ўдумчывых ацэнак свежых.
Ты бараніў мяне таксама,
У сваіх крытычных працах,
Перад зайздроснымі сябрамі,
Якія любяць прыдзірацца.
Жыві яшчэ гадкоў дзесятак
Без хвароб абавязкова,
Каб стацца мог вялікім святам
Юбілей Твой стогадовы!

*Беласток*
*29 жніўня 2013 г.*

## Сцяна плачу

Адведаў ізноў я Казімеж,
Надта ж люблю гэты горад.
Знаёмае ўсё прад вачыма,
Быццам быў тут толькі ўчора.
На схіле цяніны не бачыў
На даўніх яўрэйскіх магілах
Узнесенай тут сцяны плачу,
Што ўражвае страшэннай сілай.
Нагробныя пліты фанаты
Сабралі як чын некапомны.
Па дзеях фашыстаў праклятых
Паставілі мур сімвал-помнік.
Трывала стаіць Сцяна плачу
На мірнае заўтра з надзеяй.
І яна нашчадкам тлумачыць
Трагічны лёс польскіх яўрэяў.

*Казімеж-Дольны*
*30 сакавіка 2013 г.*

## У чвэрць стагоддзя

Мацуюцца кантакты штодзень
З маёй маленькаю айчынай.
У Беластоку чвэрць стагоддзя
Жыву я з жонкай Валянцінай.
І свае словы, як зярняты,
Сею на ураджайнай ніве
І сабіраю плён багаты,
Становячыся больш шчаслівым.
Мы ганарымся з маёй Валяй,
Што ў нашай мове беларускай
Змаглі мы вырасціць Наталлю,
Нашу каханую дачушку.
Гады праходзяць, пакаленні
І прамінае жыццё наша.
Ды пастаянна болей цэнім
Мову, народ свой і Падляшша.

*Налэнчаў*
*23 сакавіка 2013 г.*

*Borys RUSSKO*

## Jabłko

Przypadek z jabłkiem
zabrał nam raj
Czekam na akt łaski
Na chwilę kiedy Anioł
z własnego ogrodu
wręczy człowiekowi jabłko
genetycznie nie zmodyfikowane

*4-01-2013 r.*

*Барыс РУСКО*

## Яблык

Выпадак з яблыкам
забраў нам рай
Чакаю акту ласкі
Хвіліны калі Анёл
з уласнага агарода
уручыць чалавеку яблык
генетычна не мадыфікаваны

*4-02-2013 г.*
*Пераклаў Віктар ШВЕД*

# Прыступа

**Надыходзіла восень, дні станавіліся штораз карацейшымі, ды былі яшчэ цёплыя. Сонейка час ад часу выглядвала з-пад шэрых воблакаў. Коцікі, выцягнуўшы лапкі, выграваліся на прызбах старых хат. Удава Манька ніколі не раскідвала прызбы, хата ў яе старэнькая, без падлогі, толькі з таком, а ён жа і летам халодны.**



Людзі спяшалі дакопваць картоплі. Штодзённа злазілі з поля ў падвячорак. А вечарам па ўсёй вёсцы разносіўся грукат церніц. Дзяўчаты церлі лён. Трэба ж падрыхтаваць пражу на дываны і палатно. Калі хмары расплываліся, а месяц весела гуляў па небе, дзяўчаты сходзіліся групкамі, па-суседску, тады і праца была вясёлай і лёгкай.

— Сёння ў нас чарга, — жахнулася Надзя. — Трэба хутка прыгатовіць церніцу і лён.

Сцягнула кулік сухога льну з печы і паспешна панесла пад хлеўчык, вынесла церніцу і чакала сяброваk.

Асталося толькі штосьці перакусіць. Хоць паела ў абед даволі печаных картопляў на полі. З кусочкам салёнай саланіны, то ўсё ж і так прагаладалася.

Схапіла бохан хлеба, адрэзала скібку, пашмаравала алеем і, паклаўшы кавалачкі цыбулькі, стала са смакам уплятаць.

— О, глядзі, ужо адна твая сяброўка з церніцай і кулікам ільну пад пахай спяшаецца, — заўважыла маці, углядаючыся ў кухоннае акно.

— Ага, ага, мамачка, ужо канчаю есці, — адказала Надзейка і кінулася насустрач сяброўцы Ніне.

Дзяўчаткі спрытна прыгатовілі месца працы побач хлеўчыка і ўзяліся за работу. У той момант з'явілася і Зінка. Тут жа з-за плота прагулкі выйшлі Міша, Пеця і сусед Коля.

— Ну, красуні даражэнькія, давайце хоць вам лянок паломім, гэткая праца для мужчын, — грымнулі ў адзін голас хлопцы і ўміг, адпіхнуўшы дзяўчат ад церніц, узяліся за работу, падскокваючы разам з церніцамі.

Паламаўшы лён, хлопцы прыселі на парозе хлява, а дзяўчаты ўзяліся за далейшую апрацоўку льну. І так весела гамонячы аб усім і нічым працу закончылі позним вечарам, калі ўжо месячык надобра схаваўся за хмарамі.

Назаўтра Ніна, сустрэўшы на вуліцы Надзьку, што спяшалася да маці ў поле, падбегшы, шапнула на вуха:

— Я падслухала, як ранкам суседка Марта хвалілася маёй маме ў сакрэце, што да яе Марылькі дзядзька Хведар прывязе ў дзіваснубы хлопца з суседняй вёскі, ды не ўчула, з якой. Нібыта, хвалілася, добры кандыдат на зяця, хаця і ў вочы яго не бачыла, — далей лапатала на вуха сяброўцы Ніна.

— Ну што ж, Марылька дзеўка стройная, адзінака, а гаспадарка немалая, няма каму абрабляць, ні бацькі, ні брата... Прыступа нагвалт патрэбны, — рассудзіла Надзя.

— А што з Колем, ён жа за ёю свету не бачыць, — ужо гучней працягвала Ніна, не звяртаючы ўвагі на маці, якая памаленьку валаклася за дзяўчатамі.

— І так нічога з гэтага не выйшла б, ён і бедны, а жонку яму трэба да хаты, а ёй — прыступы! — растлумачыла сяброўка.

Дзень за днём хутка прабеглі і людзі злезлі з поля, адсвяткавалі Прачысту і Пакрову, а дзяўчаты, „абрабіўшы” лён, чакалі кудзельніц.

Дзіваснубы Марылькі зрабілі паціхеньку, каб, барані Божа, ніхто ў вёсцы не ведаў, і каб якаясьці „добрая цётка” не пабегла абсудзіць дзяўчыну жаніху. Цётка Марта добра помніць, як Абрамчаву Гандзю „абсучыла” цётка Тэкля, калі тая мела выйсці замуж за Рыбалаўца. Бацькі паверылі трапусе і вяселле развалілася. Цяперака ўсе дзяўчаты ў вёсцы баяцца Тэклі як агню, а, сустрэўшы на вуліцы, усміхаюцца і нізенька кланяюцца, хаця ў душы ненавідзяць...

Марылька аднак не вытрымала і пахвалілася сяброўцы Ніне, што сапраўды хлопец аказаўся відным і ахвотна выйдзе за яго замуж, значыць, возьме яго ў прымакі.

Прайшоў тыдзень ад дзіваснубаў і бацькі жаніха прыехалі ў агляды, ды ўсё зноў адбылося ціха. Усё абгаварылі, а калі прыйшла вясна, бацька жаніха прыехаў араць ужо поле ўдавы, хоць вяселля яшчэ не зрабілі.

Марылька была прыгожая, ды яшчэ з полем, добрая партыя, таму і хлопцы са сваёй вёскі не хацелі ўпусціць чужога „прышандала”, хай выбірае прыступу са сваіх хлопцаў, іх жа многа ў вёсцы.

Аднойчы ў нядзелю прыехаў сам жаніх Іван. Хутка аб гэтым даведаліся і сусед Коля ды яго сябры. Ужо з самага поўдня падхмяляліся брагай у Васіля, у якога літроўку можна дастаць удзень і ўночы. А гарэлачку ўмеў зрабіць ён моцную, моцную...

— О, глядзіце, дзеткі, п'яныя кавалеры ідуць, мабыць да нас, — глянуўшы ў акно крыкнула маці. У той момант раздаўся трэск, адзін з кавалераў вырваў балясіну з плота і ўсе ўпяцёх накіраваліся на панадворак удавы Марты.

— Прачся, Іванку, хутчэй лезь на гару! — загадала напалоханая маці Марылькі. Іван схапіў з-пад запіка сякеру і шпарка палез на гарышча. Марылька ў тры міга адставіла драбіну і накрыла яе плахтай.

Дзверы рыпнулі і ў хату ўваліліся добра падхмеленыя рызыканты, у шапках набакір. Коля, як закапёршчык, крыкнуў:

— Дэ той прышандал, мы ёго зараз научымо як красті чужых дівчат, покажэм ёму дорогу додому, нэхай сэбэ там шукае жуонку! — крыкнуў ён са злосцю, размахваючы балясінай.

— Няма ў нас нікога, хтосьці вам набрахаў, а Марылька мая пакуль што замуж не выбіраецца, — адказала спакойна маці.

— Як няпраўда, калі па вёсцы кажуць, што яго бацька араў ваша поле, — дадаў Мішка.

— Ну і што, мы з Марылькай не парэм, таму і нанялі чалавека за аплатай, — далей тлумачыла Марта.

Хлопцы падазрона разглянуліся па хаце і, не ўбачыўшы „прышандала”, крыху ўспакоіліся і, насунуўшы шапкі на вочы, выйшлі з хаты.

Іван злез з гары, пасядзеў пакуль сцямнела і, узяўшы з хлеўчыка схаваны веласіпед, памчаўся дахаты.

Неўзабаве сталі рыхтавацца да вяселля. Усё далей рабілася ціхенька, запаведзі чыталіся ў другой вёсцы. І толькі ў суботу, калі маладуха Марылька хадзіла па сваяках спрашаць на вясельны вячэрні пачастунак, разышлася па вёсцы вестка аб вяселлі. У нядзелю, а было гэта якраз на Мікалая, вянчаліся ў царкве, у прыходзе жаніха Івана. У царкву прыйшло многа сяброваk Івана, каб убачыць, да якой дзеўкі прыступае. Не адна ж хацела б прыняць такога віднага, спакойнага хлопца, а да таго здольнага сталяра. Вяселле адбылося ў хаце бацькоў Івана, ды і там не было спакою. Аднавяскоўцы напіліся і пачалі разганяць вясельнікаў. Патрапалі ўсе вокны бацьку Пятру, а госці чым хутчэй сядалі ў вазы і ўцякалі ў сваю вёску. Нат маладуха дастала каменем у нагу.

Назаўтра прыехала пэрэзва з маладжонамі, прывозячы нявыпітую гарэлку і закуску. Тут пагулялі спакойна і весела ў хаце суседа. Старэнькая хата ўдавы не памясціла гасцей, а сусед акурат быў паставіў навенькую хату з драўлянай падлогай.

Прыступу палюбілі ў вёсцы, не адну ён выбудаваў хату ці клуню. А вяселле ўспаміналі доўга.

**Ніна БРУЧКО**

# Бласлаўлёная Ліпская зямля

Выбраным народам можна назваць жыхароў надбобранскага Ліпска. За іх добрымі ўчынкамі сочыць не хто іншы як сама Божая Маці. Ужо другое стагоддзе ўніяцкая ікона Божай Маці Базільянкі падмацоўвае веру прыхаджан мясцовага каталіцкага касцёла шматлікімі цудамі і ласкамі. Не здзіўляе тады факт, што менавіта на працягу гэтага перыяду Ліпская зямля спарадзіла дзве бласлаўлёныя: сястру Сяргію — назарэтанку, загінуўшую у Навагрудку, і Марыянну Бярнацкую — заступніцу цешчаў. Абразы бласлаўлёных штодзень аздабляюць алтарык Базільянскай Божай Маці. Ва ўніяцкай сям'і нарадзілася таксама адна з бласлаўлёных — Марыянна Бярнацкая. Ад нейкага часу 2 жніўня, з нагоды парафіяльнага фэсту ў гонар Анёльскай Божай Маці, яе народны па стылі абраз ставяць пасярэдзіне касцёла. Перад ім шчыра моляцца перш за ўсё знітаваныя з сабой лёсам цешчы і нявесткі. Так ужо заведзена, што зусім незнаёмыя жанчыны голасам шматвяковай традыцыі, у пераломным перыядзе свайго жыцця вымушаны стаць чымсьці накшталт маці і дачкі. Тут паяўляецца амаль немагчымае ў здзяйсненні заданне — згоднае карыстанне любоўю аднаго, самага блізкага мужчыны: сына і мужа. Нялёгкая нявестчына доля заўсёды была асноўным сюжэтам беларускай народнай песні. Яшчэ да жаніцьбы „выхвалялась яго маці, ой я сына маю, ой я цябе невестою браці ні думаю”. Пасля вяселля, паводле звычаю, перасяліўшыся ў хату жаніха і яго маці, нявестка найчасцей спявала:

*„...чаму ты матуленька не падумала,*
*Мяне маладзенькую замуж аддала*
*У чужую вёсачку незнакомую,*
*У чужую сямеечку невясёлую.*
*У чужую сямеечку мяне аддала,*
*Ні адзін я разочак ні абедала,*
*Толькі ў канцы століка настаялася,*
*Лічаных кусочкаў я напіталася...”*


Анна Бярнацкая з паломніцамі пад хатай

Гэтая сарамлівая, скрываная ад „людскіх вачэй”, але надта актуальная праблема суадносін паміж цешчай і нявесткай пабачыла свет, дзякуючы шчасліваму збегу акалічнасцей. У 1999 годзе папа Ян Павел ІІ прылічыў да ліку бласлаўлёных 107 мучанікаў з амаль усяго свету. Сярод іх апынулася і Марыянна Бярнацкая з Ліпска. Дакладна семдзесят гадоў таму, 1 ліпеня 1943 года ў Ліпску і наваколлі адбыліся масавыя арыштаванні. Нямецкі акупант хацеў адпомсціць за смерць паліцыянта, забітага падпольшчыкамі. Гітлераўцы ўвайшлі, між іншым, у хату Станіслава і Анны Бярнацкіх. Паводле аповедаў праўнука бласлаўлёнай Станіслава Бэткі, дзед Станіслаў у гэты момант прабаваў выскачыць праз акно, але гэта яму не ўдалося. Акупанты, якія акружылі хату, выпусцілі за ім кулямётную чаргу. Маці Станіслава, Марыянна, кінуўшыся да ног эсэсмана, папрасілася пайсці на смерць замест цяжарнай нявесткі Анны. Маладая жанчына засталася жывой. Марыянну з сынам Станіславам забралі ў гродзенскую турму. 13 ліпеня 1943 года яе расстралялі на фартах, непадалёк падгродзенскіх Наўмовічаў разам з 49 землякамі.

Культ Марыянны асабліва ўзмоцніўся тры гады таму назад. Распаўсюджаннем культу заняліся Элцкая курыя і Радыё Марыя. З'явіўся таксама спецыяльны цешчын малітоўнік. Даход ад яго продажу падтрымлівае Дом самотнай маці імя Марыянны Бярнацкай у Элку.

Штораз больш паломніц наведвае ліпскі касцёл і хату бласлаўлёнай па вуліцы Мейскай, 16. Для праўнука Станіслава і яго сям'і вестка пра беатыфікацыю прабабулі была зусім нечаканай.

— Яна ж простая жанчына, — кажа праўнук, — не займала ніякіх пасад, ні касцельных, ні свецкіх. Чаму гэта ўсё так раптам раздзьмухалася? Мабыць, кожны на яе месцы павёў бы сябе так сама. Такія тады былі людзі.

Запытаны пра ўплыў бласлаўлёнай прабабулі на суадносіны цешча-нявестка у іх сям'і адказаў: „У нас, як ва ўсіх, усяляк бывае”. Усё ж такі прызнаўся, што, мабыць, дзякуючы заступніцтву бласлаўлёнай перад Богам яго родная сястра Гражына змагла нарадзіць доўгачаканае патомства. Яго бабуля, выратаваная Анна, нягледзячы на свае 97 гадоў, заўсёды рада паломніцам. З радасцю сустракае іх пад хатай, пры памятным, пастаўленым сям'ёй абеліску. Дзверы яе сціплай драўлянай хаткі заўсёды адчынены. У гасцінным пакоі, з якога забралі бласлаўлёную цешчу з сынам Станіславам, адбываюцца супольныя малітвы, чытаюцца спецыяльныя літанні. Спадарыня Анна спявае сваім гасцям старыя набожныя песні. Унук Станіслаў мяркуе, што пры жыцці бабулю Анну трымаюць унутраны спакой і дабрыня. Ён толькі сумуе, што касцёл не цікавіцца і быццам не заўважае прысутнасці яшчэ жывой нявесткі бласлаўлёнай цешчы. Па сутнасці спадарыня Анна з'яўляецца жывой копіяй простай, сціплай і ціхай, выбранай Богам і людзьмі Марыянны.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**



# Краязнаўчы паход

Таварыства „Стакротка” з сядзібай у Курашаве паспяхова рэалізуе праект „Дзве гміны — адна мэта”. Сваю дзейнасць разгортвае ў святліцы ў Палічнай. Сёлета таварыства арганізавала некалькі цікавых мерапрыемстваў: у чэрвені — велапрабег праз пушчу з Курашава ў Тапіла, у ліпені — экскурсію на турыстычных аўтобусах у Крушыняны і Супрасль, а 11 жніўня — краязнаўчы паход па Кляшчэлеўскай гміне. У паходзе ўдзельнічала каля пяцідзесяці чалавек з Курашава, Палічнай, Вілюкоў, Вэрстока і Старыны. Сродкамі транспарту былі дзве фурманкі, якія далі браты Сахарчукі — Сяргей з Дабрывады і Васіль з Чахоў-Арлянскіх. Трэці фурман з Пагулянкі ў апошняй хвіліне адмовіў у паслузе, таму таварыства пакарысталася фурманкай з трактарам. Выезд назначаны быў з-пад палічанскай святліцы.

Стаяла цудоўнае сонечнае надвор'е. У 13 гадзін экскурсанты пагрузіліся на фурманкі. Найбольш, відома, памесцілася на „трактарную” падводу, якой кіраваў Эдзік Зазулінскі з Курашава, муж радны Кляшчэлеўскай гміны і заадно лідаркі таварыства Аліны Зазулінскай. Кампанія была адборная. Не хапала толькі музыканта. Але гэта не перашкодзіла ўдзельнікам у спяванні. Жанчыны ўсю дарогу спявалі быццам на вяселлі. Падарожжа ў запаведнік у Елянцы доўжылася каля гадзіны. Чакаў нас тут падрыхтаваны пачастунак. Былі касцёр і печаныя каўбаскі, свежанькія памідорчыкі і пячэнне ды рознага роду напіткі. А пасля пачаліся спевы. Рэй вялі харысткі вэрстоцкага царкоўнага хору Марыя ды Ніна з Вілюкоў і Тоня са Старыны, а запявалам была Зіна Саевіч. Дапамагалі ім палічанскія пявунні: солтысіха са светліцовай, Марыя Герасімюк і... бурмістр Кляшчэляў Ірэна Негярэвіч. Да вясёлай кампаніі далучылася сужонства з Вэрстока Дубіцкай гміны — Марыя і Юрка Карпюкі. Варта адзначыць, што Юрка выконвае абавязкі ляснічага на гэтым участку і падрыхтаваў усё неабходнае для вогнішча. Прыемна было правесці некалькі гадзін часу ў сяброўскай кампаніі на ўлонні натуры. Тут спрыяльная атмасфера для ладжання станоўчых міжлюдскіх адносін. А такіх зараз палічанская грамадскасць патрабуе. „Згода будуе, нязгода разбурае”, — напамінае народная мудрасць. І з гэтымі абавязкамі намагаюцца справіцца Салэцкая рада, мясцовая радная і таварыства „Стакротка”. Затым поспехаў і ўдачы „Стакротцы” ды жыхарам Палічны ў ладжанні станоўчых адносін ад шчырага сэрца жадае ніжэйпадпісаны.

**Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА**

PS. А краязнаўчы паход у елянскі запаведнік лічу ўдалай імпрэзай. Відаць гэта было ў час супольнага застолля, пячэння каўбаскі на вогнічы і супольных спеваў.


Перад ад'ездам у паход


Пячэнне каўбаскі на вогнішчы

# Мярэжка, крыжык, гладзь...

— Родам я з Сушчы, — кажа Анна Кузьма, якая ўжо не першы раз паказвае свае рукадзельныя дасягненні на беларускіх святах. У гэты раз свой ларок раскінула на пачатку пляца над Міхалоўскім вадасховішчам, дзе сёння (3 жніўня) адбываецца фэст „Прымацкая бяседа”.

А момант раней мы бачыліся з ёю ў Гарадку на „Сяброўскай бяседзе”. Майстрыхі-рукадзельніцы прывозяць на беларускія святы цэлыя ларкі-выставы сваіх твораў, часам падмацаваных граматамі лаўрэатак выставак і конкурсаў — як Галіна Бірыцкая. У крамкі заходзяць людзі паглядзець народную прыгажосць, але і набываюць што-небудзь — ад маленькіх сурвэтак ці чахолцаў на бутэлькі, да ікон святых, вышываных крыжыкам.

— Я з Сушчы, замуж выйшла ў Міхалова і з 1964 года ўжо тут, — працягвае Ганна. — А вышываць вельмі люблю. Калі мне было шэсць гадоў, я ўжо вышыла краявід. Калісь не было такіх ніцей як цяпер... Пасля, калі я выйшла замуж, заняло мяне сямейнае жыццё, але пра вышыванне я не забылася. Вечарком, зімой, бывала, вышыю што-небудзь... Але цяпер, калі я ад 2000 года ўдавою, жыву адна. Дзеці мае ў Беластоку. Мяне тое вышыванне так уцягнула, што калі што-небудзь раблю, думаю: „А Божа мой, то ж я сёння іголкі яшчэ ў рукі не брала!”. Так я гэта люблю! Хаця б трошкі павышываць. Вельмі мне хочацца, каб нашы маладыя дзяўчаты таксама гэтым заняліся, каб гэтае майстэрства не ўмярло: праца рук нашых бабцяў, прабабцяў. Калі хто паніма гэтую работу і яе любіць — гэта як маляванне голкай і ніткай. Гэта краса, багацце народа.



Ганна Кузьма яшчэ не мела сур’ёзных выставак сваіх прац. А навышывала іх шмат. Насупраць сталоў Ганны Кузьмы стаіць ларок Галіны Бірыцкай з Плянты Нараўчанскай гміны, дасведчанай мастачкі, якую ўшанавалі за творчасць і расслаўленне роднага старонння таксама ў сваёй гміне.

— Я навышывала многа, але то дзецям пааддавала, то сваякам, — прызнаецца Ганна Кузьма, — то добрым знаёмым. Адважылася паказацца на большым форуме, у нас у Міхалове ўжо трэці раз. У Гарадок з’ездзіла так, паслухаць спеваў. Я ж не маю машыны, сама не езджу. Мне сястра цяпер памагла сабрацца на свята.

Ганна Кузьма робіць усё:

— Усё, што з ніткай звязана. Гэтыя маленькія сурвэтачкі з беражкамі, камплектамі, я рабіла ў „Цэпэлію”. Засталіся мне ніткі, зрабіла іх на памятку. Гэты ручнік, што ззаду вісіць — чырвоначорны — я скончыла пазаўчора. Шмат што ў хаце маю, на сценах вісіць — не буду ж усяго браць з сабою на выстаўку. А гэты ўзор называецца мярэжка. Ахвотна вышываю кветкі. Вось тут шыпшына з пладамі, ружы... Люблю таксама сакральныя матывы. Вышываю крыжыкам іконы. Крыжыкавую вышыўку люблю, бо то калісьне-пракалісьне! Гладдзю вышываю таксама — гладдзю лягчэй вышываць. А гэтыя бежнічкі з трускалкамі — гэта мая любімая ягада. І макаткі вышываю. Не, не пра „ваду” і не пра „жонку”! Там вышыта: „Niech ci Bóg dobry sprzyja, niech nieszczęście twój dom mija, twoje życie, twoja praca sama radość niech przeplata”. Мне вельмі спадабаліся „макаткі” ў календарах „Нівы”, так файна зробленыя. Але для вышывання не надаюцца. Варта было б, каб у „Ніве” падавалі час ад часу ўзоры для вышыўкі. Жанчыны купілі б, павялічыўся б тыраж. Або паказаць трэба было б пашыў і вышыўку беларускіх кашуль. Мяне „Прымак” папракаў: „Вы вышываеце, дык вышылі б сабе кашулю ці ў народны ўзор, ці з надпісам «Прымацкая бяседа »”.

— Але прыйдзеш на „Свята грыба”, і дзе тут тая „Прымацкая бяседа”, — ухілаецца знаёмая майстрыхі. — Я прапаную табе вышыць ільняную сукенку. Тады пойдзеш на розныя імпрэзы, і хораша, па-народнаму будзеш выглядаць. Неабавязкова цэлую, але хаця б з нейкім матывам.

— Ну, добра. А калі будзеце ў Беларусі, прывязіце мне беларускія ўзоры, — разгараюцца вочы майстрыхі. — У нас тут адно польскія ўзоры. А быў у Нараўцы праваслаўны шлюб, дзе маладая, малады і старшыя былі ў народным адзенні. Варта было б і ў нас пашыць маладым асобам народнае ўбранне!

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ

# http://zinenka.ru

У паэтаў, як і ва ўсіх астатніх людзей, лёсы бываюць розныя. Адны могуць са сваёй здольнасці складаць вершы рабіць рамяство, час ад часу падзарабляючы рыфмаплётствам ні аб чым, а для другіх перадаць усе свае пачуцці праз рыфмаваныя творы дорага каштуе — і здароўя, і нерваў, а часам і жыцця. Да такіх літаратараў можна аднесці паэтку з горада Барысава, што непадалёк ад Мінска, Таццяну Зіненку, якая пайшла ў лепшы свет два гады таму.

Каб бліжэй пазнаёміцца з творчасцю паэткі, варта зазірнуць на сайт, прысвечаны яе памяці. Месціцца ён у інтэрнэце па адрасе http://zinenka.ru, і быў створаны ў межах ініцыятывы „Нацыянальны паэтычны партал”.

Галоўная старонка сайта нібы адразу настройвае карыстальніка на нейкае сумаванне. Магчыма таму, што пераважае светла-карычневы колер, а пасярэдзіне месціцца загаловак — „Памяці Таццяны Зіненкі”.

„Сардэчна запрашаем на сайт памяці беларускай паэткі Зіненка Таццяны Васільеўны. Тут вы можаце пазнаёміцца з біяграфіяй паэткі і таксама з яе творамі — вершамі пра жыццё, людзей, родны край і, безумоўна, каханне, пакінуць водгукі на вершы ці падзяліцца сваімі думкамі ў гасцявой сайта”, — распавядаецца ў той невялічкай нататачцы, якая аздоблена партрэтным фотаздымкам паэткі.

Рубрык на сайце не надта многа. Некаторыя з іх месцяцца ўверсе, а частка — з левага боку цэлага выяўлення. Але там, дзе не змешчаны вершы, а распавядаецца непасрэдна пра Зіненку, інфармацыі зусім мала. Так, у „Жыццяпісе” літаральна некалькі радкоў, хаця паэтка ўсё ж пражыла больш за 50 гадоў. „Пасля вучобы ў Зачысценскай школе і Беларускім педагагічным інстытуце працавала выкладчыцай беларускай мовы і літаратуры ў роднай вёсцы і школах горада Барысава. Пісаць пачала ў сярэдзіне 70-х гадоў. У маладосці атрымала вядомасць як аўтар таленавітых лірычных вершаў. Друкавалася ў „Камуністычнай працы” і многіх рэспубліканскіх газетах і часопісах. Першыя вершы таленавітай паэткі — пра сваіх землякоў (у тым ліку пра касманаўта Уладзіміра Кавалёнка)”, — гэта з большага ўсё, аб чым мы можам даведацца з біяграфіі Таццяны Зіненкі на той старонцы.

Праўда, на сайце ёсць перадрукоўка артыкула з газеты „Барысаўскія навіны”, дзе месцяцца расповеды тых, хто ведаў паэтку, яе нешчаслівы лёс. Гэта неяк кампенсуе адсутнасць змястоўнага жыццяпісу.

„Здарылася бяда, якая напаткала шматлікіх таленавітых людзей на абшарах СНД. Як на жыццёвым шляху Таццяна раптам прывязалася да спіртнога, невядома. І з-за гэтага рана пайшла ад нас”, — кажа ў сваіх успамінах паэтка Валянціна Леві.

Паводле яе, каб адцягнуць Зіненку ад алкаголю, Леві прасіла яе напісаць новыя вершы. „Але Таццяна запэўніла: «Я ўжо не на той сцежцы». У гэтым і крыецца сіла алкагольнай залежнасці”, — гаворыць прыяцелька барысаўскай паэткі.

Пайшоўшай з жыцця паэтцы была не абыякавая сітуацыя, якая склалася ў Беларусі з беларускай мовай, так званым афіцыйным двухмоўем: „І я не супраць іншых моў, / Як нехта зноў мяне пужае. / Але ў людзей спакон вякоў / Дзвюх матак зроду не бывае”.

Што ж тычыцца вершаў Зіненкі, якія месцяцца на сайце, то яны падзелены на інтымную, грамадзянскую і філасофскую лірыку.

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

## Дата з календара

Дата з календара Дата з календара Дата з календара Дата з календара

Імкнуўся да волі

# 75 гадоў з дня расстрэлу Уладзіміра Пракулевіча

Беларускі грамадска-палітычны дзеяч, публіцыст, юрыст Уладзімір Пракулевіч нарадзіўся ў снежні 1887 года ў вёсцы Красналукі Барысаўскага павета (цяпер Чашніцкі раён). Невядомая нават дакладная дата яго нараджэння. У біяграфічных звестках знаходзім, што ён скончыў Смаленскую гімназію, а пасля, у 1912 годзе, юрыдычны факультэт Маскоўскага ўніверсітэта. У час вучобы ў Маскве захапіўся марксісцкімі ідэямі і нават быў сакратаром часопіса адпаведнага кірунку „Возрождение”, а таксама загадчыкам аддзела хронікі ў газеце „Копейка”. У час першай расійскай рэвалюцыі актыўна ўдзельнічаў у працы сацыял-дэмакратычных гурткоў (РСДРП і Бунду). Да першай сусветнай вайны працаваў у Менскай казённай палаце, з 1914 г. — у Менскім акруговым судзе. З пачаткам вайны эвакуяваўся ў Маскву, пазней стаў рахункаводам у структуры Усерасейскага камітэта земскіх і гарадскіх саюзаў па забеспячэнні войска. З ліпеня 1917 года зноў у Менску на судовых пасадах.

У 1918 годзе быў абраны старшынёй Слуцкага з’езду міравых суддзяў. З прыходам бальшавікоў працаваў міравым суддзёй у мястэчку Вызна, прыхільнік БПСР. З узнаўленнем савецкае ўлады ў ліпені 1920 г. на пасадзе суддзі ў Слуцку. На з’ездзе Случчыны абраны старшынёй Беларускае рады Случчыны. Уладзімір Пракулевіч быў адным з кіраўнікоў антыбальшавіцкага Слуцкага паўстання. 15-16 лістапада 1920 года ў яшчэ занятым польскімі войскамі Слуцку менавіта па ініцыятыве Пракулевіча быў сабраны з’езд прадстаўнікоў валасцей і мястэчак павета. Захаваўся тэкст прамовы Пракулевіча перад прысутнымі. Па словах гісторыка Анатоля Грыцкевіча, гэтыя людзі „хацелі волі”.

Далей Пракулевіч узначальваў Цэнтральны беларускі паўстанцкі камітэт, які быў створаны летам 1921 года. Гэты камітэт ажыццяўляў агульнае кіраўніцтва паўстанцкімі арганізацыямі ў Бельскім, Ваўкавыскім, Гарадзенскім і Лідскім паветах.

З 1921 года ў Вільні, у складзе Віленскага Белнацкама, сябар Загранічнага бюро БПСР. У 1922 годзе ў ліку трыццаці трох дзеячаў высланы польскімі ўладамі ў Літву, жыў у Коўне. У 1923 годзе ў Коўне кааптаваны ў склад урада БНР на чале з Аляксандрам Цвікевічам на пасаду дзяржаўнага сакратара. З канца 1923 года ў Празе, бярэ ўдзел у нацыянальных арганізацыях беларускай эміграцыі. Удзельнік Другой Берлінскай беларускай палітычнай канферэнцыі, падпісаўся пад рэзалюцыяй пра ліквідацыю ўрада БНР. Чаму ён так зрабіў — дакладна невядома: магчыма пад нейкім ціскам, магчыма паверыўшы ў тое, што зможа працаваць на карысць Беларусі на Бацькаўшчыне.

З траўня 1926 года — у Савецкай Беларусі. Працаваў у Дзяржаўнай бібліятэцы БССР. 19 ліпеня 1930 г. арыштаваны ГПУ па „справе Саюза Вызвалення Беларусі” і на 5 гадоў высланы ў Свярдлоўск (цяперашні Екацерынбург). У студзені 1938 года зноў арыштаваны „як удзельнік контаррэвалюцыйнай арганізацыі, што працавала на карысць адной з замежных дзяржаваў”, засуджаны да расстрэлу. Расстраляны 20 жніўня 1938 года. Рэабілітаваны па першым выраку ў чэрвені 1988 года, па другім — у красавіку 1989 года.

Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Санлівая Гайнаўка

Летняй парою ў Гайнаўцы ціха і спакойна, быццам горад узяў сабе водпуск і адпачывае. Гэта так, як бы дзве трэція ўсіх жыхароў выехалі з горада. Усім вядома, што многа — асабліва маладых — жыхароў выехала за мяжу, рассыпалася па свеце. Найбольш падалося ў заходнія дзяржавы. Толькі нешматлікія ўзялі водпуск і паехалі загараць над морам або ў горы. Круцяцца людзі пераважна на рыначку ў цэнтры горада. Але каб аж так было пуста. Каб горад так абязлюдзеў!

Зараз няма таго гоману і шуму, той спешкі. На вуліцах няшмат людзей. Пераважна гэта пажылыя мужчыны і жанчыны. Ім няма куды і чаго спяшацца. У сярэдзіне дня ў аўтобусах гарадской камунікацыі ўсяго два-тры чалавекі, а то і адзін пасажыр! Рэдка каго ўбачыш на прыпынках гарадской камунікацыі. Варта дадаць, што з думкай пра старэйшых людзей на вуліцах у горадзе паставілі шмат лавачак. Зараз няма каму на іх сядзець.

Нават у спякотны летні дзень людзі не ходзяць у парк, не пасядзяць на лавачцы на адным ці на другім скверыку, дзе столькі прыгожых кветак. Не бурліць жыццём дзіцячы агародчык у засені бяроз ды дубоў у гарадскім парку па вуліцы Паркавай.

А ўжо чыгуначны вакзал зусім заглох. На перонах не стаіць ні адзін поезд. На станцыю амаль што ніхто не заходзіць. Кладку над пуцямі часткова адрамантавалі (перш-наперш лесвіцы), але ўжо паіржавелых прутоў у бар'ерках не памалявалі.

Зараз аўтобусы ПКС сюды не заязджаюць. А быў жа гэта і аўтобусны вакзал.

Даўно зніклі з аблічча горада два малочныя бары, сёлета адышоў у нябыт прытульны бар, у якім смажылі смачныя дранікі. Яшчэ помню, што былі кавярні, між іншым, па вуліцы 3 Мая, у Доме настаўніка па вуліцы Пілсудскага і кавярня „Верас" па вуліцы Арміі Краёвай, але яны асталіся толькі ў маёй памяці. Новыя не паяўлюцца на гарадскім гарызонце. Штосьці небывалае.

Летам у будзённыя дні і ў некаторыя нядзелі Гайнаўка становіцца санлівай. Вядома, канікулы. Ажно, калі горад ажывае — гэта тады, калі ў парку арганізуюць канцэрты мастацкіх калектываў. Нядаўна прайшлі Кірмаш зубра, Актава культур.

У горадзе не будуюць ні маставых, ні тратуараў, хаця пара для гэтага самая лепшая. Пісаў я ў папярэдніх нумарах „Нівы" пра тое, што сёлета ў Гайнаўцы маюць рамантаваць сем вуліц, у тым ліку вуліцу Ажэшкі, Лагодную, Пташынскага, Сонечную і Жвіровую.

У канцы ліпеня хадзіў я па вуліцах, на якіх маюць пракладаць бардзюры і класці асфальт, а на іх нічога не робяць. Забылі, ці што? Найбольш небяспечная зараз асфальтавая маставая на вуліцы Ажэшкі. Тут патрушчаны асфальт на абочынах дарогі. Там, дзе глыбокія ямкі, паўбівалі ў пясок калочкі і зрабілі павязкі са стужкі. Гэтак на ўсім 350-метровым адрэзку.

Навезлі пяску на частку доўгай вуліцы Лагоднай і так пакінулі ды недзе з'ехалі. А будавацы тут прыйдзецца доўгі кавалак вуліцы. Самая назва вуліцы — Лагодная ды ад яе адыходзіць вуліца Ціхая. Назвы добра пададбралі. Тут сапраўды ціха як мала дзе, але — калі ўжо задумалі — дык маставую трэба пабудаваць гладкую і бяспечную. Але вось прытармазілі і спынілі рамонт. Цяпер калі хто сюдою ідзе ці едзе, той грэзне ў мяккім пяску.

На адной палавіне вуліцы Пташынскага (яна пачынаецца ад вул. Каляёвай) ляжыць толькі расплянтаваны пясок. У спякотны дзень вецярок пагульвае і ўзбівае пыл стаўбом. Зараз відаць, што прывезлі ды скінулі пад платамі паабапал дарогі новыя бардзюры. Каб нешта больш рабілі, гэтага не відаць. Невялікі гэта адрэзак вуліцы — усяго нейкіх 200 метраў.

У Гайнаўцы часта наглядаецца штосьці такое: калі пройдзе вясна і лета ды набліжаецца восень, тады пачынаюць і будаваць, і рамантаваць вуліцы. А ўжо не тая пара і з-за непагадзі не ўдаецца закончыць распачатых інвестыцый. Сёлета нават сцёртых палосак, г.зв. зебраў на маставых для пешаходаў дагэтуль — а зараз канец лета — не змаглі аднавіць. Бо ж хіба (?) тут нічога дзіўнага, зіма была доўгая, а вясна запозненая і раптоўна насталa лета... А яно такое кароткае.

Магчыма, што яшчэ сёлетняй вясной рамонтнікі выехалі на працу за мяжу, бо там ім лепш плацяць. І мо таму няма каго наняць на працу? А людзі як то людзі, яны паўсюдна і часта гавораць, што зараз на Беласточчыне цяжка знайсці сабе працу. Можа не настойліва яе шукаюць?.. Можа ім лепш пайсці за дапамогай у „апеку"?

Летнія канікулы. Летнія мае разважанні.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

# Весткі з Міхалоўскай гміны

У Міхалове (Беластоцкі павет) будуць мець прыгожы гарадскі парк з фантанам. Парк, а ў ім дарожкі для пешаходаў і лавачкі, зараз ёсць, але будзе тут шмат прыгажэй.

Узбоч Міхалова, пры вуліцы з горада ў напрамку Заблудава, побач тамашняга вадасховішча, будзе пабудаваны пастаянны базар дзеля ўзбуйнення гандлю. На рынку паставяць вялікую павець, склад, гандлёвыя кіёскі, прыбіральні, пабудуюць тратуары ды аўтастаянку. На ўсё гэта Міхалоўская гміна атрымала еўрасаюзныя фінансавыя сродкі.

*

Нядаўна пяць пар з Міхалоўскай гміны святкавала 50-годдзе шлюбнага сужыцця. У зале шлюбаў мясцовага ЗАГСа сустрэўся з імі бурмістр Міхалова Марк Назарка. Ад імя прэзідэнта РП уручыў ён юбілярам медалі „За шматгадовае шлюбнае жыццё". Медалямі былі ўзнагароджаны Ян і Раіса Гавенчыкі, Мікалай і Серафіма Казберукі, Люцыян і Яніна Падбельскія, Францішак і Галена Руселі ды Вінцэнты і Валерыя Ткачы. Варта дадаць, што сапраўднае каханне пазнаецца не па яго сіле, але па часе яго працягласці і трываласці.

Сустрэча прайшла ў сардэчнай і мілай атмасферы. Былі кветкі, дыпломы і традыцыйны келіх шампанскага. Ад імя Гарадской рады ў Міхалове сардэчна павіншаваў юбіляраў яе старшыня Багуслаў Асташэўскі. Затым парам, якія пражылі разам паўвека, зрабілі „сямейны" памятны здымак на дварах перад ратушай.

Шаноўным юбілярам жадаем усяго найлепшага ды перш за ўсё моцнага здароўя і многая лета.

**(яц)**

# Адгаданка

### Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — прагаворку.

1. гарадскі пасёлак у Браслаўскім раёне = 9 _ 10 _ 8 _ 6 _;
2. прычаліў каўчэг да Арарата = 15 _ 20 _ 21 _;
3. пара сутак з зорным асвятленнем = 25 _ 26 _ 17 _;
4. прыродная мінеральная сыравіна са злучэннямі металаў = 24 _ 2 _ 22 _ 11 _;
5. смутак, журба = 12 _ 23 _ 7 _;
6. маўклівы, пануры чалавек = 5 _ 4 _ 3 _;
7. рака ў Ужгарадзе = 18 _ 19 _;
8. вяровачка, якая сцягвае канцы лука = 27 _ 28 _ 13 _ 14 _ 1 _ 16 _.

(ш)

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 |
| | | | | | | 15 | 16 |
| | | | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 |
| | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 30 нумара**

Баку, Бельск, знос, Рыга, Пашыч, ікс, зебу, дына, ход, зязюля, цырк, нуль, год, імша, удар, павет, тры.

Рашэнне: **Без скрыпачкі, без дуды ходзяць ногі не туды**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

# 01.09 — 07.09

**(22.03. — 20.04.)** Можаш добра і выгадна прадаць штосьці. Дома ідылія, на працы поле бою. Не дай, каб цябе з'елі нервы. Фантастычная першая дэкада ў пачуццях. Дзве першыя дэкады вельмі добрыя ў здароўі.

**(21.04. — 21.05.)** Вырашы, чаго хочаш у пачуццях. Сітуацыя дома можа цябе перарасці. У кар'еры не будзе дзеяцца шмат, нуднавата; хацелася б змен. А шукуецца шмат нагод добра падзарабіць! Можаш шмат выйграць, калі выкарыстаеш шанцы.

**(22.05. — 22.06.)** Добрыя задумы падкіне табе Меркурый. Маеш шанцы аформіць шмат спраў і выклікаць захапленне іншых. Дома завядзеш ідэальны парадак; магчымы наезд гасцей. Асцярожна не значыць бяздзейна. У кар'еры магчымыя праблемы (можаш расчаравацца ў сваёй фірме, а можа гэта не будзе залежаць ані ад яе, ані ад цябе). Найлепшая інвестыцыя — гэта ты.

**(23.06. — 23.07.)** Багацце пачуццяў і абавязкаў. Апетыт на жыццё і ласункі. Цудоўна ў пачуццях. Адзінокія Ракі маюць шанц сустрэць кагосьці, з кім будзе табе добра і спрачацца, і цалавацца. Міла дома. 5-9.09. — шчаслівыя выпадкі, асабліва ў фінансавым плане. 6-10. час спрыяе добрым рашэнням, падарожжам, дыпламатыі і адвазе.

**(24.07. — 23.08.)** Будзеш дзейнічаць хутка і паспяхова. Маеш шанц дасягнуць мэту. Вельмі шмат хатніх абавязкаў. З 5 да 9.09. зоркі дададуць табе самаўпэўненасці і пачуцця гумару. Праз твой знак вандруе баявіты Марс, і не дасі сабе напляваць у кашу. У самотных Ільвоў пачнецца палюўнічы сезон!

**(24.08. — 23.09.)** Шыкуецца табе шмат прыемнасцей. Чэрпай з жыцця поўнымі жменямі! Вялікія прыбыткі. Сям'я — крыніца тваёй энергіі. 5-9.09. не застанешся адзін пад навалам абавязкаў. Выдатнае здароўе аж да трэцяга тыдня. Фантастычная атмасфера на працы. Бярыся да навукі!

**(24.09. — 23.10.)** Будзе ісці як па картах: раз добра, раз горш. Не вагайся даверыць сябру. Гайданка настрояў. Самотныя Шалі могуць паспяхова прывабіць асобу, якой цікавяцца. У сям'і завіраванні, некаторыя цябе расстрояць. Твая кар'ера ідзе да добрага. Маеш шанц пазнаёміцца з уплывовымі людзьмі; павышай свае кваліфікацыі, а новая паперка спатрэбіцца.

**(24.10. — 22.11.)** 1-4.09. будзеш проста адчайны, можаш здабыць усё, што хочаш. Прадбачваецца рэзкі пералом у тваім здароўі; маеш шанцы аздаравець, але і стан здароўя можа пагоршыцца. Не кідай лякарстваў і працэдур, калі папраўціца. У рашэннях стаў на спантаннасць.

**(23.11. — 22.12.)** 5-9.09. будзеш напоўнены энергіяй. Маеш шанц выклікаць уражанне на тых, ад якіх ты залежны. Ідэальны момант, каб папраўіць свой рэйтынг. Будзеш вельмі ахвярны для сваіх блізкіх. Добрыя дні на візіт у лекара, касметычныя працэдуры. Прыбыткі — як рукой працягнуць.

**(23.12. — 20.01.)** Падумай пра супрацу — гэта не ёсць добры час для самотнікаў. Дасканалы час на засноўванне супокоў і падпісванне дамоў. Самотныя Казярогі павінны паўдзельнічаць у інтэрнэтных форумах. Дома шыкуецца немалое замяшанне; паявяцца неадкладныя справы. Не забывай аб дыеце. Можаш пастарацца цяпер зачаць дзіця.

**(21.01. — 19.02.)** Папраўа ў фінансах. Сімпатыя атачэння, прыцяганне шчасця, а на працы нянадта цяжка (да 9.09.). Але ў верасні задбай аб сябе, не ўжывай залішне нават шакаладу. У кар'еры не ўсё пойдзе па тваёй думцы ў першай палове верасня (да 11.09.). У фінансах дзейнічай адзін, але не будзь прагны.

**(20.02. — 21.03.)** Сапраўдная бура ў пачуццях. Памятай, не адзенне аздабляе чалавека. У дзвюх першых дэкадах маеш права наракаць на стому, недахоп энергіі і абавязкі. Пільнуй выдаткі, не шастай грашыма. 3-7.09. будзеш раздражнены і сварлівы, недаверачы ў пачуцці і шчыра расць блізкіх. Пі вітамін С, не сядай на дыету. У кар'еры спрацэнтуе ветлівасць. Давярай інтуіцыі. Ажыццяўляй свае мары — маюць шанц здзейсніцца.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7.00 – 18.00. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy" w 2013 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 100 egz.

# На Спаса ў Тапалянах

**На сёлетняе свята Праабражэння Гасподняга не ўдалося мне выбрацца на славутую паломніцтвамі Грабарку паводле маёй задумы, таму вырашыў я з'ездзіць у крыху інакш апошнім часам славутыя Тапаляны, дзе таксама прыхадское свята.**



Ex Oriente lux



Ex Occidente luxus

Тапаляны то ўзлятаюць, то прызямляюцца апошнім часам у гонцы за рэгіянальны аэрадром. Пакуль той аэрадром толькі папярова-віртуальны і туды з Беластока не ездзіць ніякі авіяаўтобусны транспарт; дабірацца ў перспектыўную вёску даводзіцца на звычайным пэкаэсаўскім аўтобусе.

Язду пачынаю з беластоцкага аўтавакзала. Аўтобусны народ прывык дзеля выгады скарачаць сабе дарогу і выходзіць на адпраўныя пероны непасрэдна па палатне аўтобусных дарожак. Нейкі час таму паставілі там знак забароны пешага пераходу, таму я, падпарадкоўваючыся задуманаму аўтобусным начальствам парадку, выходжу на свой перон тунелем. Тунель той не ўсюды мае паказальнікі перонаў, затое поўна там высахлых ручайкоў антрапагеннага паходжання, быццам прамянёў на эмблеме „Увасходзячага" Беластока, быццам візіткі нашага шматкультурнага горада...

У Тапаляны едзе некалькі асоб з Беластока, некалькі асоб прысядаецца ў Подварках. Аўтобус спыняецца перад тапалянскай царквой дваццаць хвілін да дзевятай гадзіны. Набажэнства ідзе ўжо поўным ходам; магутныя мегафоны выводзяць галасы святара і хору навонкі храма. У Тапалянах такая развязка вельмі сэнсоўная, бо інтэр'ер тамашняй не надта вялікай царквы адводзіць вельмі мала месца вернікам — палова збудавання адведзена на алтар.

Людзей яшчэ малавата і я, нетутэйшы, займаю месца ў куточку каля свячнога прылаўка, мяркуючы пра прадастаўленне больш ганаровых месц спераду мясцовым вернікам. Але мясцовы народ мае ў крыві выпрацаваны пакаленнямі прынцып „мая хата з краю" і таксама горнецца ў куточак. Праз нейкі час вызваляю сваё штораз цяснейшае месца, выходзячы навонкі.

Прымяненне мегафонаў гэта не адзіная праява ўводу тэхнічнага прагрэсу ў богаслужэнне. Святары чыталі абрадавыя тэксты з надрукаваных на прынтары картак заміж са старанна арнаментаваных кніжак. Спачатку мяне гэта здзіўляла, прыводзячы ўспамін пра карткавыя чытанні ў выкананні Леаніда Брэжнева, але пасля прыгадаліся мне фрэскі з розных мураваных цэркваў, дзе аўтары сакральных тэкстаў паказаны не толькі з кнігамі, але і з лісткамі пергаменту. Значыць, чытанне з картак гэта свайго роду вяртанне да вытокаў...

Польскі сатырык Станіслаў Ежы Лец прыдумаў быў калісь афарызм *Ex Oriente lux, ex Occidente luxus* (з Усходу святло, з Захаду раскоша), як парафразу ранейшай лацінскай сентэнцыі *Ex Oriente lux, ex Occidente lex* (з Усходу святло, з Захаду закон). Афарызм Леца цалкам нядаўна прыгадаў быў папа Францыск, кампліментуючы праваслаўе за захаванне ў ім духоўнай глыбіні. Але афарызм Леца, які згадвае пра агульныя асаблівасці Усходу і Захаду, добра прымеркаваны і да нашай рэчаіснасці, да нашага ўсходне-заходняга памежжа. І канкрэтна нават да Тапалян...

Менавіта, хоціць выйсці навонкі нашага храма, дзе алтарная частка, у прынцыпе, мае быць з усходу, так як гэта і ёсць у Тапалянах. Па прычыне абмежаванасці месца, адведзенага вернікам усярэдзіне царквы, шмат з іх, стоячы перад уваходам у храм, слухае набажэнства з мегафонаў. Але гэты ўдзел у святкаванні даволі фармальны, бо вернікі больш увагі прысвячаюць таму, што дзеецца навокал іх, дзе збіраюцца даўно не бачаныя знаёмыя, з якімі можна перакінуцца словам, памяняцца навейшымі навінамі. Ды можна і зусім не звяртаць увагі на менш ці больш глыбінную духоўнасць, толькі раскошна насалоджвацца „традыцыйным" марозівам. Па выглядзе можна распазнаць, хто з прысутных жыве на вёсцы, а хто прыехаў з горада, з Беластока.




Памятка па царквіску ў Патоцы

За цвінтарнай агароджай расстаўлены ларкі з прапановай, традыцыйна скіраванай на наймалодшых удзельнікаў свята. Крышку іх прыехала з бацькамі, некаторыя шпацыруюць з дзядулямі ці бабулямі, выяўляючы сваю святочную радасць з дапамогай купленых у ларках акустычных прылад.

У агульнасці святкаванне ў Тапалянах падобнае на ўрачыстасць на Грабарцы — тут адно іншы, меншы маштаб. На Грабарцы, як была пайшла чутка, сёлета меў быў з'явіцца прэм'ер Дональд Туск. Але, здаецца, не з'явіўся. У Тапаляны наведаўся затое кіраўнік мясцовага самаўрада, бурмістр Міхалова Марк Назарка. Здаецца, што заглянуў ён на свята, каб паказацца свайму народу, а прынамсі яго частцы, бо ў межы царкоўнай агароджы ён не заходзіў, але вестка пра яго прысутнасць у народ пойдзе.

Святочная пропаведзь у Тапалянах паўтарае евангельскі сюжэт, да якога прымеркавана свята — да здарэння на гары Фавор. Евангеліст Матфей так піcаў пра гэта: „...узяў Ісус Пятра, Іакава і Іаана, брата яго, і ўзвёў іх на гару высокую адных, і перамяніўся перад імі, і засзяла аблічча Яго, як сонца, а ўбранне Яго стала белым, як святло. І вось, явіліся ім і Маісей, і Ілія, і з Ім размаўлялі. Азваўшыся, Пётр сказаў Ісусу: Госпадзі! добра нам тут быць: калі хочаш, зробім тут тры шатры: Табе адзін, і Маісею адзін, і адзін Іліі...". Праведнік згадвае, што ён сам быў калісь асабіста паломнічаў на гару Фавор.

Апісаныя ў Евангеллі падзеі наводзяць мне асацыяцыю з Тапалянскім прыходам, дзе таксама тры „шатры", тры царкоўныя месцы: Тапаляны, Патока і Пяценка. І я, перад завяршэннем набажэнства, адпраўляюся ў сваё „паломніцтва" па мясцовым „Фаворы", па мясцовых царкоўных месцах.

У Патоцы месца па колішняй царкве сёлета пазначана адмысловым помнікам з нагоды стагоддзя асвячэння апошняга тамашняга храма. Дарэчы, мінулае царквы ў Патоцы цесна пераплятаецца з падзеямі вакол царквы ў Тапалянах. Першая згадка пра тапалянскі храм датуецца 1596 годам; гэта год заключэння Брэсцкай царкоўнай уніі, пад якую тамашні прыход пераходзіць каля ста гадоў пазней. Не ўсе, аднак, прыхаджане пагаджаюцца падпарадкавацца новым абставінам і для іх узводзіцца асобная царква ў Патоцы, якая неўзабаве, каля 1740 года, таксама прымае пастановы Брэсцкай уніі. У 1771 годзе гарыць царква ў Патоцы, але дзевяць гадоў пазней узводзіцца там новы храм, які стаіць да другога дзесяцігоддзя мінулага стагоддзя. Абодва прыходы суіснавалі да 1835 года, калі прыход у Тапалянах быў уключаны ў склад суседняга з царквой у Патоцы, а тапалянская царква стала філіяльнай. Перад Першай сусветнай вайной у Патоцы была ўзведзена новая, мураваная царква, якая ў тую вайну, пад адсутнасць выбыўшых у бежанства вернікаў, была моцна разрушана, а ў час чарговай вайны і зусім знесена. А старэнькая царква ў Тапалянах, дата ўзвядзення якой, здаецца, не ўстаноўлена, пасля некалькіх рамонтаў надалей служыць мясцовым вернікам.

На лёс цэркваў крыху падобны і лёс іхніх мясцовасцей. Тапаляны трымаюцца даволі прыстойна, затое Патока быццам выйшла з XX стагоддзя, але спынілася на парозе чарговага. Вёска даволі ажурная, дзе шмат пустых сядзіб, а і забудовы аднаўляюцца даволі памяркоўна. На канцы вёскі каменны крыж з 1906 года, які, мабыць, меў быць вывадным у напрамку могілак, што на Пяценцы, на тамашняй Князевай гары.

Дарога з Патокі ў Пяценку зараз ролі дарогі не выконвае. Яе больш правільна трэба назваць гадавальнікам усялякага пустазелля, у тым ліку і асату, якога карані шчодра валяюцца на ўзрыхленым побач пожнішчы. Каля Тыльвіцы побач гэтай дарогі расце шмат абсыпаных плёнам дзічак, далей гібее абшырны сад, у якім не відаць слядоў гаспадарскага дагляду.

Царква на Князевай гары была ўзведзена па падобных прычынах, што і ў Патоцы. Менавіта, калі Патока прыняла пастановы Брэсцкай уніі, у навакольных Подварках усё яшчэ аставаліся ўпартыя схізматыкі, якія не хацелі ёй падпарадкавацца. І гэта для іх была ўзведзена чарговая царква каля паловы XVIII стагоддзя; стаіць яна да сённяшняга часу. А з вялікім спрашчэннем можна нават сказаць, што царкоўныя месцы Тапалянскага прыхода з'яўляюцца своеасаблівым помнікам схізматыцкай упартасці мясцовага насельніцтва, помнікам больш шанавання *ex Oriente lux*, чым *ex Occidente luxus*. Дарэчы, Брэсцкая царкоўная унія была заключана з абяцаннем больш выгад прымаўшым яе іерархам...

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960